ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 15 (2573)

16 красавіка 1998 г.
Выдаецца з 1955 г.
Цана 1500 рублёў.

## УЛАДЗІМІР СТАЛЬМАШОНАК — 775-годдзю НЯСВІЖА






**У Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі працавала выстава Уладзіміра Стальмашонка, прысвечаная 775-годдзю Нясвіжа. Экспазіцыю склала серыя партрэтаў прадстаўнікоў славутай дынастыі Радзівілаў. Нясвіж — іх радавае гняздо, якое пры іх працвітала, а Нясвіж стаў сапраўдным еўрапейскім горадам, дзе літаратура, музыка, тэатр садзейнічалі асвеце, развівалася выяўленчае і дэкаратыўна-прыкладное мастацтва.**

**Гэтая выстава — сур'ёзная работа Уладзіміра Стальмашонка не толькі як мастака, але і як даследчыка адной са старонак гісторыі Беларусі.**

**НА ЗДЫМКАХ: Уладзімір СТАЛЬМАШОНАК сярод наведвальнікаў выставы; работа мастака "Вайшунд — роданачальнік Радзівілаў".**

**Фота Яўгена КАЗЮЛІ, БелТА.**

НЕ ЛЕПШЫЯ ЧАСЫ АЙЧЫННАЙ ЗВЕРАГАДОЎЛІ

## НОРКА І ПЯСЕЦ НА МІЖНАРОДНЫМ АЎКЦЫЁНЕ

Пачатак развіцця беларускай зверагадоўлі адносіцца да сярэдзіны пяцідзесятых гадоў. У той час айчынная прадукцыя карысталася попытам як на ўнутраным рынку, так і за мяжой. Аднак з пачатку дзевяностых гадоў галіна пачала зведваць рэальныя цяжкасці.

У іх аснове ляжыць вельмі дзіўная сітуацыя, калі адна галіна штучна падзелена на дзве часткі — адначасова развядзеннем пушна-футравых звяроў у краіне займаюцца 7 спецыялізаваных гаспадарак Белкаапсаюза і прыкладна 60 гаспадарак Міністэрства сельскай гаспадаркі і прадуктаў харчавання. Белкаапсаюз вырабляе да 80 працэнтаў ад усёй беларускай пушніны, астатнія 20 працэнтаў прыпадаюць на долю Міністэрства сельскай гаспадаркі. За апошнія чатыры гады матачнае пагалоўе лісіц у цэлым па рэспубліцы

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

НАШЧАДКІ ЯДВІГІНА Ш.

## АЛЕСЯ

Дваццаць чацвёртага лютага 1922 года ў Вільні на пяцьдзесят чацвёртым годзе жыцця памёр выдатны беларускі пісьменнік і грамадскі дзеяч Ядвігін Ш. А праз год з шлюбу яго дачкі Ванды і слыннага Язэпа Лёсіка нарадзілася ўнучка, якую назвалі светлым імем Алеся.

Пра тое, што яе дзядуля быў выдатным беларускім пісьменнікам, яна спазнала з самых малых гадоў. Пра гэта ёй расказваць, як і іншым сваім дзецям, яе мама, Ванда. Дый, мабыць, і ад таты яна пра гэта чула. Здавалася б, у дзяўчынкі самая што ні на ёсць спрыяльная аўра, каб маленства было шчаслівае і бясхмарнае. Але не тут тое было. У 1930 годзе рэпрэсіравалі яе тату — Язэпа Лёсіка, знанага вучонага і дзяржаўнага дзеяча. Жыццё сям'і Язэпа Лёсіка зрабілася пякельным. Вось як запомніліся тыя дні Алесі Лёсік:

"Калі першы раз арыштавалі Тату, я не памятаю. Пэўна гэта было летам, і мы, дзеці, адпачывалі ў Карпілаўцы... Я не памятаю, ці гаварылі мне пра татаў арышт і як гэта ўсё было, але памятаю, як да нас пасялілі людзей. У маленькай спальні жылі чужыя людзі, у дзіцячым пакойчыку, у гасцёўні. Яны карысталіся нашымі рэчамі, хадзілі, колькі хацелі, праз сталоўку — яна, прахадная, была выпучана нам пад жытло. У гасцёўні стаяла наша мяккая мэбля, і мама дамовілася з засяленцамі — яны нібыта былі артысты, — што я буду хадзіць спаць у фатэль, бо ў сталоўцы месца ўсім не хапала. Фатэль завеслі шырмачкай, і я там спала. Добра помню, як вывозілі раяль, кілімы, мэблю, кнігі, а нас зусім выправілі з дому на Даўгабродскую вуліцу, да кагосьці падсялілі. Гаспадар дома зачыніў дзверы і не пускаў нас хадзіць. Мама і мы лазілі ў вакно. Гаспадар і суседзі смяяліся, здзекаваліся з нас. Гэтак мінула лета і восень. А вось які год — не помню. На зіму нас перасялілі на Універсітэцкую вуліцу ў прахадны пакой, але там жыла толькі адна жанчына. Жыццё стала трошкі лепш дома, але ў школе, — а я ўжо вучылася ў першым і другім класе ў Мінску, — было вельмі кепска. Я ні за што не хацела хадзіць у школу, бо там усе ведалі, што Тата мой "вораг народа". У школе давалі талоны на вопратку, абутак, нават бялізну. Дзеці падымалі рукі, і я цягнула руку таксама, гэтак хацелася мець новыя чаравічкі. Ногі мае заўсёды былі мокрыя. Настаўніца — звалі яе Міліцыя Фёдараўна — злосна апускала маю руку і казала: "Табе не дадуць!" Пасля нічога нікол не прасіла. Я расказала ўсё маме, а яна ўгаварыла не нічога не прасіць..."

А пасля было расстанне з радзімай. А з гэтым расстаннем новыя клопаты і трывогі, хваляванні. Трэба было найперш захаваць сваю родную мову. А рабіць гэта дзецям было ой як няпроста:

"Мы прыехалі ў г. Нікалаеўск у канцы лета, — згадвае Алеся. — У верасні я пайшла вучыцца ў трэці клас. Наша школа была базай для педвучэльні. Студэнты давалі ўрокі цэлыя дні, а пасля і скразную практыку. На адным з урокаў тлумачыліся значэнні слоў. Спыталася студэнтка значэнне слова "тварь". "Ці чулі, дзеці, такое слова?" Было вельмі ціха, але яшчэ цішэй зрабілася, калі я сказала,

**(Заканчэнне на 8-й стар.).**

ПАДРУЧНІК А.ГУЖОН І В. ШЫМАНЕЦ

## БЕЛАРУСКАЕ СЛОВА Ў ПАРЫЖЫ




У МІНУЛЫМ годзе ў Парыжы выдадзены дапаможнік для жадаючых вывучаць беларускую мову і пазнаёміцца з Беларуссю. Кніжка мае назву "Гаворым па-беларуску. Мова і культура". Яна выйшла ў рамках дзяржаўнай праграмы Францыі па вывучэнню замежных моў, і выданне яе фінансавалася з боку дзяржавы.

У шасці раздзелах кнігі змешчаны гістарычныя і геаграфічныя звесткі пра Беларусь. Падаецца граматыка беларускай мовы, тэксты твораў беларускіх пісьменнікаў, дадзены кароткі французска-беларускі і беларуска-французскі слоўнік. Ёсць раздзел з інфармацыяй пра сучасны стан беларускай культуры, пра французска-беларускія адносіны. Адным словам, у кнізе прысутнічае тая інфармацыя пра Беларусь, якая патрэбна кожнаму, хто пажадае вывучаць адну з самых мілагучных славянскіх моў. Кнігу зараз можна набыць у кніжных магазінах Францыі. На жаль, у Беларусь трапіла толькі некалькі асобнікаў, выданне даволі дорага каштуе.

Адчуваецца, што кніга складзена з любоўю і павагаю да краіны і яе народа, што аўтары добра ведаюць прадмет сваёй працы, і гэта сапраўды так. Складальнікамі падручніка з'яўляюцца дзве беларускі з Парыжа — Вірджынія Шыманец і Аляксандра Гужон. Гэтых сімпатычных дзяўчат ужо добра ведаюць у Мінску, куды яны час ад часу прыязджаюць. Цяпер у іх тут многа сяброў і калегаў па працы. Абедзве з вялікай прыхільнасцю ставяцца да краіны продкаў, свае прафесійныя заняткі таксама звязалі з Беларуссю.

Вірджынія Шыманец паходзіць з роду вядомага на эміграцыі мастака Уладзіміра Шыманца. Яе бацька, Лявон Шыманец, сын мастака, некалькі гадоў працаваў у Мінску ад сваёй фірмы. Вірджынія — акцёрка і тэатразнавец па прафесіі. Яна руплівa вывучае гісторыю беларускага тэатральнага мастацтва. У апошні свой прыезд Вірджынія была разам са сваімі сябрамі — французскімі акцёрамі. Усе разам яны ігралі ў спектаклі тэатра "Вольная сцэна".

Аляксандра Гужон скончыла гістарычны факультэт знакамітага Сарбонскага універсітэта. Яна палітолаг, прадаўжае адукацыю далей. Сваю навуковую працу прысвяціла вывучэнню сучасных дэмакратычных грамадскіх рухаў у Беларусі і на Украіне. Таму яна была частым госцем у Мінску, старалася спасцігнуць сутнасць грамадскіх працэсаў, якія адбываюцца ў нашай краіне. Аляксандра захапляецца Беларуссю, яна пачувае тут сябе як дома.

Аляксандра і Вірджынія прыкладаюць намаганні, каб падтрымаць беларускае жыццё ў Францыі, якое там паволі заціхае. Яны здолелі арганізаваць у мінулым годзе ў Парыжы канферэнцыю па пытаннях вывучэння Беларусі. Дзяўчаты стараюцца, каб пра нашу краіну як мага больш ведалі на іх радзіме — у Францыі. Яны прадстаўляюць сабою беларускую эміграцыю ў трэцім пакаленні. Здаецца, ужо маглі б і забыць пра свае карані. Але нашы землякі захоўваюць памяць пра краіну свайго паходжання, вяртаюцца да яе зноў і зноў, тым самым дапамагаючы і нам захоўваць сваю існасць. Выдадзеная імі кніга прымушае яшчэ раз задумацца над лёсам роднай мовы. Калі беларускае слова патрэбна ў Францыі, то мы не павінны дапусціць, каб яно знікла на Радзіме.

**Ганна СУРМАЧ, старшыня Рады ЗБС "Бацькаўшчына".**

ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

*БЕЛАРУСЬ — ІРАК*

## БУДУЦЬ АРАЦЬ НАШЫМІ ТРАКТАРАМІ

**У канцы сакавіка ў Мінску пабывала ўрадавая дэлегацыя Ірака. Адна з мэт візіту — перагаворы аб пастаўках у гэтую краіну трактароў "Беларусь".**

**Члены дэлегацыі наведалі Мінскі трактарны завод. Дасягнута дамоўленасць аб пастаўках у Ірак трактароў "Беларусь" розных мадыфікацый у рамках атрымання дазволу санкцыйнага камітэта ААН. Па выніках перагавораў падпісаны Пратакол аб намерах, дзе адлюстраваны пытанні паставак трактароў, сервіснага абслугоўвання, адкрыцця ў Багдадзе прадстаўніцтва ВА МТЗ, а таксама ўдзелу завода ў спецыялізаванай выставе сельскагаспадарчай тэхнікі ў кастрычніку гэтага года ў сталіцы Ірака.**

*АХОВА ЗДАРОЎЯ*

## БУДЗЕМ МЕЦЬ СВАЮ ГЛЮКОЗУ

**Праект па арганізацыі выпуску 5 тысяч тон глюкозы ў год на драгічынскім дзяржаўным прадпрыемстве "Экзон" уключаны ў дзяржаўную праграму імпартазамяшчэння і Рэестр высокатэхналагічных вытворчасцей на перыяд да 2004 года.**

**Як стала вядома, стварэнне на Брэстчыне ўласнай вытворчасці глюкозы дасць магчымасць не толькі поўнасцю адмовіцца ад імпарту гэтай прадукцыі ў рэспубліку, але і значную яе частку экспартаваць у краіны СНД. Акрамя таго, у сельскіх працаўнікоў вобласці з'явіцца пастаянны рынак збыту бульбы, якая з'яўляецца асноўнай сыравінай для гэтай вытворчасці.**

**Дзяржаўнае прадпрыемства "Экзон" некалькі гадоў таму пачало сваю дзейнасць на базе недабудаванага завода медыцынскіх прэпаратаў і вырабаў. У адпаведнасці з планам яго рэструктурызацыі, першапачаткова была зманціравана лінія па вытворчасці гематагену, якога ў мінулым годзе выпусцілі 194 тоны — амаль у два разы больш, чым прадугледжана праектнай магутнасцю. А не так даўно на "Экзоне" была арганізавана і вытворчасць сіропу шыпшыны. Прадпрыемства мае намер выпускаць не менш як 270 тысяч літраў сіропу ў год. На ім створана звыш двухсот рабочых месцаў, і ўжо ў мінулым годзе атрымана 3,4 мільярда рублёў прыбытку.**

*ЗАМЕЖНЫЯ ГАСТРОЛІ*

## ПРАЙШЛІ З ПОСПЕХАМ

**6 красавіка ў Вялікабрытаніі і Ірландскай Рэспубліцы завяршыліся гастролі аркестра Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь, у рамках якіх прайшлі канцэрты ў Дубліне, Манчэстэры, Йорку, Нотынгеме, Баце, Брэдфардзе. У іх узялі ўдзел таксама салісты беларускіх тэатраў оперы і музычнай камедыі.**

**Аркестр выступіў у Нотынгеме — горадзе-пабрацімe Мінска. На канцэрце прысутнічаў лорд-мэр Нотынгема, які выступіў з прамовай у падтрымку ўмацавання пабрацімскіх сувязяў паміж двума гарадамі. Падчас выступлення ваеннага аркестра беларускіх Узброеных Сіл у Манчэстэры і Кройдане за вялікі ўклад у аказанне гуманітарнай дапамогі Беларусі ордэнам Францішка Скарыны былі ўзнагароджаны грамадскія дзеячы Вялікабрытаніі Л. Уолкер і В. Маці. Аркестр Узброеных Сіл Беларусі запрошаны наведаць Вялікабрытанію ў лістападзе-снежні 1998 года.**

*ПРЭМІЯ ГЕНРЫ ФОРДА*




**"Еўрапейская прэмія Генры Форда за захаванне культурнай спадчыны і навакольнага асяроддзя" ўручана пераможцы конкурсу 1997—1998 гадоў Ірыне Віаленцій — аграному дзяржпрадпрыемства "Мінская гароднінная фабрыка".**

**Агульнаеўрапейскае журы ўзнагародзіла Нацыянальнай прэміяй і грашовым прызам 2 500 долараў ЗША праект пад назвай "Захаванне і далейшае развіццё лекавага саду Віаленцій", які прадставіла на разгляд журы Ірына Канстанцінаўна. Яна паставіла перад сабой мэту захаваць плантацыю жэньшэню і дзвесце іншых відаў лекавых траў, якія займаюць 17 гектараў. Многія з гэтых раслін — прадстаўнікі знікаючай з зямлі еўрапейскай і далёкаўсходняй флоры.**

**Ірына Віаленцій будзе ўдзельнічаць у Еўрапейскім фінале конкурсу, які адбудзецца 5 мая ў Стамбуле.**

**НА ЗДЫМКУ: з узнагародай Ірыну ВІАЛЕНЦІЙ павіншаваў генеральны дырэктар завода "Форд Юніон" Ніл КЭМПБЭЛ.**

*НА ПРЫЗ СЯРГЕЯ СМАЛЯ*



**Міжнародны юнацкі турнір па вольнай барацьбе на прызы чэмпіёна свету, сярэбранага прызёра XXV Алімпійскіх гульняў Сяргея Смаля адбыўся ў Гомелі. Гэта ўжо трэці турнір. Ён збірае юнакоў з Расіі, Прыбалтыкі, Украіны і ўсіх абласцей Беларусі на спартыўнае свята, якое праводзіцца ў яго гонар. У гэтым годзе, выступаючы ў складзе зборнай Беларусі, Сяргей узяў Гран-пры на Міжнародным турніры ў Кіеве, заваяваўшы тым самым пуцёўку на Гульні добрай волі-98.**

**НА ЗДЫМКУ: заслужаны майстар спорту, член зборнай рэспублікі па вольнай барацьбе Сяргей СМАЛЬ з жонкай Таццянай.**

*ЗАЯВА ДЗЯРЖДУМЫ РАСІІ*

## УМАЦОЎВАЦЬ ПАЗІЦЫІ БЕЛАРУСІ

**Дзяржаўная Дума прыняла заяву "У сувязі з разглядам у кангрэсе ЗША пытання аб адносінах з Рэспублікай Беларусь".**

**У заяве адзначаецца, што "5 сакавіка 1998 года група кангрэсменаў ЗША па ініцыятыве сустаршыні камісіі па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе К. Х. Сміта ўнесла на разгляд палаты прадстаўнікоў кангрэса ЗША праект рэзалюцыі, у якім змяшчаецца заклік да прэзідэнта ЗША Клінтана не аднаўляць рэжым найбольшага спрыяння ў адносінах прадукцыі, што выраблеяцца Рэспублікай Беларусь, у выпадку, калі ў гэтай дзяржаве не адбудзецца "значнае паляпшэнне" становішча з захаваннем правоў чалавека". У якасці падставы такой меры ў праекце амерыканскай рэзалюцыі прыводзіцца, на думку расійскіх дэпутатаў, "тэндэнцыйны набор аргументаў, з дапамогай якіх аўтары дакумента яўна спрабуюць аказаць ціск на суверэнную дзяржаву, якая не жадае ісці ў фарватэры амерыканскай глабальнай палітыкі".**

**Дзярждума, "пацвярджаючы сваю прынцыповую пазіцыю ў пытанні аб далейшым умацаванні Саюза Беларусі і Расіі, заяўляе аб сваёй рашучай нязгодзе з прымяняемай ЗША палітыкай двайных стандартаў у галіне правоў чалавека і спробамі аказаць ціск на Рэспубліку Беларусь".**

**Палата заклікала Прэзідэнта РФ Барыса Ельцына і ўрад "прыняць усе неабходныя меры па ўмацаванню міжнародных пазіцый Саюза Беларусі і Расіі".**

*ДАБРАЧЫННАСЦЬ*

## РЭКАНСТРУКЦЫЯ БАЛЬНІЦЫ

**Магілёўская асацыяцыя прамыслоўцаў і прадпрымальнікаў вырашыла сабраць сродкі на рэканструкцыю гарадской бальніцы хуткай медыцынскай дапамогі і набыццё медыцынскага абсталявання.**

**Прадпрымальнікі не засталіся раўнадушнымі да таго, што матэрыяльная база ўстановы, якая мае 196-гадовую гісторыю, знаходзіцца ў такім дрэнным стане. Яны вырашылі сабраць сродкі па прынцыпу: хто колькі можа. Ужо створаны штаб рэканструкцыі, які ўзначаліў намеснік старшыні гарвыканкома Уладзімір Цумараў.**

*ВЫНАЙШЛІ*

## ВОСЬ ГЭТА СКАЛЬПЕЛЬ!

**1 мільён долараў каштуе распрацоўка віцебскага Інстытута тэхнічнай акустыкі Нацыянальнай акадэміі навук. Вучоныя вынайдзены скальпель з рэжучым кантам 1—2 мікроны, тады як да гэтага часу ў свеце прымяняецца хірургічны нож у 5 мікронаў і больш.**

*АГРАРНАЯ АДУКАЦЫЯ*

## ПЛАЦІ САМ

Бюджэтныя ўкладанні ў сістэму аграрнай адукацыі скарачаюцца на 20 працэнтаў. Аб гэтым паведамлена на рэспубліканскай нарадзе кіраўнікоў навучальных устаноў сельскагаспадарчага профілю. У сувязі са скарачэннем аб'ёмаў фінансавання ў гэтым годзе маркуецца абмежаваць прыём студэнтаў, увесці платнае навучанне па шэрагу спецыяльнасцей.

*АДУСЮЛЬ ПАКРЫСЕ*

НОВАЯ мадэль трактара "Беларусь", прызначанага для пакупнікоў далёкага замежжа, створана на Мінскім трактарным заводзе. У ім выкарыстаны шэраг самых важных рабочых вузлоў фірм "Карара" і "Перкінс". Магчыма, на новых трактарах будуць устаноўлены і бартавыя камп'ютэры.

УСТАНОЎЧАЯ канферэнцыя Усебеларускай жаночай лігі прайшла ў Мінску. Галоўная мэта новай грамадскай арганізацыі — аб'яднанне жанчын, якія выступаюць за асноўныя вартасці сацыял-дэмакратыі: свабоду, роўнасць, салідарнасць, сацыяльную справядлівасць.

САМЫ небяспечны ў Беларусі — аграпрамысловы комплекс. На яго долю прыпадае аж 40 працэнтаў усіх траўм, атрыманых у 1997 годзе, якія закончыліся смерцю. 28 працэнтаў склалі цяжкія траўмы.

АКБ "БЕЛАГРАПРАМБАНК" адкрывае сёлета крэдытную лінію для падтрымкі і развіцця фермерскіх гаспадарак у памеры 150 мільярдаў рублёў.

ГРОДЗЕНСКАЕ вытворчае аб'яднанне "Азот" удастоена міжнароднага прыза за лепшую гандлёвую марку. Аб'яднанне стала таксама членам "Клуба лідэраў гандлю", у які ўваходзяць прадстаўнікі 145 краін.

У РЭСПУБЛІКАНСКІМ інстытуце вышэйшай школы і гуманітарнай адукацыі адкрыліся курсы "Правы дзіцяці і Усеагульная дэкларацыя правоў чалавека". Курсы арганізаваны сумесна з беларускай Асацыяцыяй садзейнічання ААН.

*КОЛЬКІ ВАДЫ СПЛЫЛО...*



**Віцебскаму водазабору № 1 больш за 100 гадоў. Ён адзін з самых старых у Беларусі, за сваю гісторыю перапампаваў столькі вады, што ёю можна было б пакрыць тэрыторыю рэспублікі слоем у два метры.**

**НА ЗДЫМКУ: у зале фільтраў водазабору.**

*ПАЛІТЫЧНЫЯ ПАРТЫІ*

## ВЫКЛЮЧАНЫ З РЭЕСТРА

**Міністэрства юстыцыі выключыла шэраг палітычных аб'яднанняў з Дзяржаўнага рэестра палітычных партый. Размова ідзе аб Партыі аматараў піва, партыі Беларускі навукова-вытворчы кангрэс, Беларускай аб'яднанай спартыўнай партыі, Партыі ўсебеларускага адзінства і згоды, партыі "Ачышчэнне" і народнай партыі "Адраджэнне". Падставай для такога рашэння стала фактычнае спыненне дзейнасці названых палітычных аб'яднанняў.**

*ДРАЎЛЯНЫЯ ПАДШЫПНІКІ*

**Новы тып падшыпнікаў, што самі змазваюцца, пачалі выпускаць у акцыянерным таварыстве "Гомельскі ГПЗ". Функцыі традыцыйных шарыкаў у іх выконвае звычайная драўніна, прамочаная спецыяльнай сумессю. Акрамя эканоміі металу, што адбілася на кошце падшыпніка, на заводзе дабіліся і зніжэння працаёмкасці вытворчасці. Аднachасова павышана даўгавечнасць работы падшыпніка, асабліва ў агрэсіўным асяроддзі. Рухомая драўніна ўжо знайшла сваё прымяненне ў сельскагаспадарчых механізмах, у прыватнасці сеялках, іншых механізмах.**

**Навінка ўкаранёна ў вытворчасць па распрацоўках вучоных Беларускай акадэміі інжынераў транспарту, якія запатэнтавалі сваё вынаходства.**



**НА ЗДЫМКУ: інжынер-тэхнолаг Іван ФАМЕНКА і начальнік тэхнічнага аддзела прадпрыемства Рыгор ГАФТ з узорамі новых падшыпнікаў.**

*ЛЁС ЧАЛАВЕКА*

# БАЦЬКА І СЫН



Дом Уладзіміра Шакуна, у мінулым ляснога тэхніка Белакарэцкага лясніцтва Валожынскага лясгаса, стаіць на водшыбе ад вёскі. Ён яшчэ моцны, як і яго 84-гадовы гаспадар. Аднак час няўмольны. Парэнчы паддашкавага балкона струхлелі. Сцены зруба, некалі абшытага дошчачкай і пафарбаваныя ў сіні колер, пабляклі і падгнілі.

У 42-м дом згарэў. Тады ад рук карнікаў пацярпела ўся вёска. Падвор'е У. Шакуна падыходзіла да самага лесу. Так што партызаны брыгады "Чкалавец", што дыслацыравалася ў Налібоцкай пушчы, наведваліся да яго часта: і проста на агеньчык, і як да сувязнога. У той памятны год Уладзімір Афанасьевіч ажаніўся. Нягледзячы на трывожны час, у доме грымела музыка, спявалі песні, танцавалі, неслася дружнае "горка". Словам, гулялі, як належыць на вяселлі. Усе сяльчане прыйшлі павіншаваць маладых. А праз некалькі дзён вёска была спалена дашчэнту карнай экспедыцыяй немцаў. Лес схаваў людзей. Аднак адрадзілася вёска Белакарэц толькі праз два гады.

На старым бацькоўскім фундаменце паставіў У. Шакун новы дом, і жыццё стала паступова наладжвацца. Зноў пайшоў працаваць лесаводам.

А звязаны з лясной справай Уладзімір Афанасьевіч яшчэ з "запольскага часу".

Мала засталося старажылаў, якія маглі б расказаць аб асаблівасцях графскага палявання. Уладзімір Афанасьевіч быў непасрэдным удзельнікам паляўнічых забаў братоў Міхаіла і Уладзіміра Тышкевічаў, як гаворыцца, і па абавязку службы.

— Добра жылі ў той час леснікі, — успамінае У. Шакун. — За ахову лесу ляснік атрымліваў 20 злотых, 15 пудоў хлеба, 6 гектараў сенакосу з умовай, што на пакос ён будзе наймаць людзей. Выдаваўся воз, конь, ружжо. Па ўсім перыметры графскіх угоддзяў, а гэта прыкладна 20 тысяч гектараў, стаялі лесніччыкі, так званыя кардоны, дзе жылі леснікі са сваімі сем'ямі. Наладжана была між імі і тэлефонная сувязь.

У той час не было такога паняцця, як рубка дзеля догляду лесу. Лес рос сам па сабе. Сухастой перагніваў, удабраючы лясную падсцілку. Цяпер жа ўсё па-іншаму. Знікаюць непраходныя гушчары, лясы ператвараюцца ў гарадскія паркі.

Усё гэта засталося ў памяці лесавода, у яго багатай і нябачнай кладоўцы. Ці дрэнна, ці добра ўсё было, тым не менш, жыццё працягвалася. У новым доме нарадзіліся сыны. Ад яго ганку праводзіў ён у апошнюю дарогу і сваіх бацькоў, а праз многа год і жонку.

Як ні спрабаваў бацька абудзіць у старэйшым сыне любоў да лесу, таго больш цягнула да радыётэхнікі, канструявання. Малодшы ж Васіль хадзіў проста па пятах. Бацька на паляванне — і ён за ім. Так што большая частка дзяцінства яго прайшла ў вандроўках па паляўнічых сцежках.

Сёння Васіль Шакун — галоўны паляўніцтвазнавец Валожынскага лясгаса. І наведваецца на сядзібу бацькі не толькі, каб справіцца пра здароўе старога, дапамагчы па гаспадарцы, але і расказаць пра сваю работу, пра свежыя лясныя навіны, пра чарговае паляванне. Цяпер Васіль Шакун, як і яго бацька некалі, наладжвае паляванні для замежных аматараў дзічыны. Нейк у знак удзячнасці нямецкі паляўнічы запрасіў да сябе ў госці. Памятнай засталася паездка ў Германію для Васіля. Многа фатаграфій сабралася ў яго сямейным альбоме, якія могуць расказаць пра яго паляўнічыя будні. Побач з каляровымі прыгожымі здымкамі пажаўцелыя бацькоўскія аб тых жа лясных баталіях. Але галоўная з іх — фотапартрэт бацькі на сцяне: малады чалавек у ваеннай форме войска Польскага конна. Такі ж партрэт вісіць і ў доме яго бацькі Уладзіміра Шакуна.

**Сяргей САБАДАШ.**

**НА ЗДЫМКАХ: Уладзімір ШАКУН ля свайго дома; Уладзімір Афанасьевіч з сынам Васілём.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**



**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

скараціласа да 4 тысяч, пясца — з 13 тысяч да 8,3 тысячы. На 33 тысячы паменшылася пагалоўе норкі. Аднак скарачэнне пагалоўя пушнога звера адбылося ў асноўным за кошт прадпрыемстваў сістэмы Міністэрства сельскай гаспадаркі, а ў сістэме Белкаапсаюза пагалоўе працягвала расці. Тым не менш, галіна сёння перажывае не лепшыя часы, і самым цяжкім для яе стаў мінулы год. У сувязі з рэзкім зніжэннем попыту і цэн на пушна-футравую сыравіну звератадоўля на сённяшні дзень апынулася ў крайне цяжкім становішчы. Асноўнай прычынай стала рэзкае павелічэнне вытворчасці больш таннай скандынаўскай пушніны на расійскім рынку, які заўсёды быў асноўным месцам рэалізацыі беларускай пушніны.

У 1992 годзе прадпрыемствы спажывукааперацыі, апынуўшыся ў складаным эканамічным становішчы, скарацілі пагалоўе норкі прыкладна на 20 працэнтаў. Аднак гэта паказала, што само па сабе скарачэнне пагалоўя праблем не вырашае, а вось вынікі тып кароткаваласай норкі, у той час як даны від норкі з-за нізкага попыту ў Беларусі быў ліквідаваны яшчэ ў сямідзесятых гадах.

Да нядаўняга часу з-за таго, што не было іншага футра, наша карысталася нязменным поспехам у айчыннага пакупніка, а замежныя аптавікі набывалі яго для экзотыкі. Аднак цяпер нам рэальна пагражае апынуцца на задворках сусветнага рынку пушніны, сведчаннем чаго служаць вынікі апошніх міжнародных аўкцыёнаў. Што тычыцца ўнутранага рынку, то пакупнікоў футра з норкі і пясца тут не так ужо многа, у асноўным попытам карыстаецца таннае футра. У той жа час, турэцкія і грэчаскія аптавікі прыязджаюць у Беларусь, закупляюць тут таннае футра, практычна, адходы, а потым шыюць з яго шубы, якія ўтрая даражэй прадаюцца на стадыёне "Дынама". Адзінае выйсце з гэтага тупіка — змяніць пагалоўе статку, набываючы звяроў новых парод, для чаго патрэбны валюта і падтрымка галіны на дзяржаўным узроўні ў выглядзе льготных доўгатэрміновых крэдытаў. Аднак аўчынка — а ў даным выпадку пясец — вырабу вартая, і, без сумнення, грошы, укладзеныя

# НОРКА І ПЯСЕЦ НА МІЖНАРОДНЫМ АЎКЦЫЁНЕ

скарачэння аб'ёмаў вытворчасці і продажу прадпрыемствы пушной галіны адчулі практычна адразу, бо ўсе неабходныя затраты леглі на малую колькасць прадукцыі, за кошт чаго рэзка ўзрос яе сабекошт. Таму павелічэнне пагалоўя ў самы цяжкі час аказалася эканамічна апраўданым. Тым больш, што, як паказвае вопыт, спад і ўздым у звератадоўлі адбываецца кожныя пяць-сем год. Перыяд спаду ўдаецца перажыць далёка не ўсім гаспадаркам, затое тыя, хто захоўвае пагалоўе, у перыяд уздыму атрымліваюць вялікія прыбыткі.

Але беларускія падаткі робяць нявыгаднай вытворчасць нават каштоўнай пушніны. Менавіта акцызныя падаткі, на думку спецыялістаў, якія ў Беларусі значна вышэйшыя, чым на жывёлагадоўчыя галіны, практычна знішчылі ў рэспубліцы такую перспектыўную галіну, як нутрыегадоўля.

Складаней праблемай аказаліся падаткі і таможныя зборы. Жадаючых жа выдзеліць валютныя крэдыты знайсці вельмі цяжка, таму што вярнуць іх можна толькі раз у год. Адыграла сваю адмоўную ролю і падзенне цікавасці да футры на сусветным і ўнутраным рынках, якое знайшло сваё адлюстраванне ў выніках міжнароднага аўкцыёна, што прайшоў у Санкт-Пецярбургу ў канцы студзеня. На працягу ўсяго аўкцыёна было прададзена толькі 8 працэнтаў ад усёй выстаўленай норкі і не было прададзена ніводнай шкуркі пясца. Адна з прычын, па якіх ніхто не праявіў цікавасці да нашай пушніны, заключаецца яшчэ і ў тым, што на сённяшні дзень сабекошт шкуркі беларускага пясца складае 47 долараў, у той час як нарвежскі пясец з больш модным апушэннем футры і значна большага памеру каштуе 44 долары.

Беларуская пушніна магла б аказацца канкурэнтаздольнай на сусветным рынку, неканкурэнтаздольныя толькі цэны, па якіх мы яе там вымушаны прадаваць.

Ёсць і яшчэ адна праблема, якую, на думку супрацоўнікаў Белспажыўсаюза, не вырашыць без дзяржаўнай падтрымкі. У верасні 1997 года ў Фінляндыі адбыўся міжнародны аўкцыён, на якім з 2 мільёнаў 588 тысяч прадстаўленых там скандынаўскімі краінамі шкурак блакітнага пясца было куплена 100 працэнтаў, нягледзячы на тое, што максімальны кошт шкуркі даходзіў да 130 долараў. Было прададзена таксама 100 працэнтаў выстаўленых шкурак палярнай лісы, янотападобнага сабакі, норкі. Нягледзячы на тэндэнцыі, што намеціліся ў свеце, амаль усе лічбы продажу сведчылі аб стойкім попыце на футра. "Амаль", таму што з выстаўленых на аўкцыёне 41 407 шкурак польскага блакітнага пясца не была прададзена ніводная! Такі ж лёс 31 000 расійскіх шкурак таго ж звера. І справа тут зусім не ў міжнародным байкоце ці лабіраванні чыіхнебудзь інтарэсаў. Проста на працягу доўгіх гадоў Расія і Польшча былі адрэзаны ад сусветных тэндэнцый моды на пушніну, і звератадоўля развівалася тут сваім шляхам, у выніку чаго славянскае футра мае цвёрдую восць, доўгі ворс, ды і ўвогуле вызначаецца па структуры апушэння ад таго, што сёння модна ва ўсім свеце. Акрамя таго, на сёння ў моду ўвайшоў скандынаўскі ў пушную звератадоўлю, вернуцца поўнасцю.

Яшчэ адна праблема, якая не дазваляе беларускай пушніне заняць належнае месца на сусветным рынку, — гэта якасць вырабу шкурак. Калі на непатрабавальным айчынным рынку шкуркі айчыннага вырабу ўдаецца рэалізаваць, то на знешнім рынку мы можам прадаць толькі сыравіну, бо наш выраб вельмі далёкі ад міжнародных стандартаў.

Асобай увагі заслугоўвае становішча, якое склалася ў пушной звератадоўлі Міністэрства сельскагаспадарчых прадуктаў, дзе ўсёй галіной займаецца ўсяго адзін чалавек, старшыня савета сістэмы звератадоўлі пры міністэрстве Васіль Кандрацценка. Ахапіць усе 60 гаспадарак ён, вядома ж, не ў стане, таму абслугоўвае па дагаворах усяго 10 калгасаў і саўгасаў. Астатнія 50 гаспадарак жывуць сваім, часта толькі ім вядомым жыццём, падпарадкоўваючыся не Мінсельгаспроду, а мясцоваму начальству.

Калі ў сістэме Белспажыўкааперацыі знаходзяцца спецыялізаваныя гаспадаркі, якія займаюцца толькі звератадоўляй, то ў сістэме Мінсельгаспрода развядзенне пушных звяроў, як правіла, з'яўляецца падсобным промыслам у буйных калгасах і саўгасах, арганізаваным там некалі для ўзняцця іх эканамічных паказчыкаў. А таму ўзрастае сабекошт прадукцыі, нярэдка сродкі, што выпучаюцца на звератадоўлю, укладваюцца ў жывёлагадоўлю і раслінаводства, не хапае ветэрынараў і заатэхнікаў.

Як гэта ні дзіўна, у Беларусі да гэтага часу адсутнічае орган, які фарміраваў бы і каардынаваў палітыку звератадоўлі ў цэлым. Адзінае выйсце, якое дапамагло б сёння паўнацэнна развівацца звератадоўчай галіне, на думку ўсіх зацікаўленых асоб, заключаецца ў аб'яднанні прадпрыемстваў гэтай галіны сістэмы Белспажыўсаюза і Мінсельгаспрода. Стварэнне такой асацыяцыі дазволіла б цэнтралізавана кіраваць развіццём галіны, правільна размяркоўваць наманганні нешматлікіх спецыялістаў і тэхнолагаў, мэтанакіравана закупляць за рубяжом звяроў з моднай структурай апушэння, размяркоўваць кармы.

Сёння нямала нутрый, андатры, трусоў, шыншылы разводзіцца ў сялянскіх гаспадарках. Аднак да гэтага часу ў рэспубліцы няма ніводнай структуры, якая працавала б з насельніцтвам у гэтым напрамку, аказвала б дапамогу ў нарыхтоўцы кармоў, займалася закупкай гатовай прадукцыі. Між тым, у апошнія тры гады ў Беларусь была завезена шыншыла, футра якой цэніцца вельмі дорага — кошт адной шкуркі на міжнародных аўкцыёнах складае прыкладна 80 долараў. Лепш за ўсё шыншыла адчувае сябе ў невялікіх фермерскіх гаспадарках, на буйных прадпрыемствах ёй няўтульна. Сёння ў Беларусі ўжо ёсць чатыры фермеры, якія вельмі паспяхова разводзяць шыншылаў. Заўважым, што ферма ў 150—200 галоў можа даваць да 1 000 долараў чыстага прыбытку ў месяц.

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

## НАМ ПІШУЦЬ

ЯК І ЎСЕ беларусы свету, якія не адракліся свае мовы і нацыянальных сімвалаў, звычаяў і традыцый, Вільня ўрачыста святкавала юбілей васьмідзесяцігоддзя абвяшчэння незалежнасці Беларусі.

Напярэдадні свята прасторная зала Дома настаўніка была ўпрыгожана бел-чырвона-белымі сцягамі і яркім плакатам у цэнтры сцэны: "80 год БНР". У належнае месца пастаўлены фартэпіяна, нарыхтавана гукавая тэхніка.

У прызначаны час зала была запоўнена прадстаўнікамі ўсіх беларускіх арганізацый горада, а таксама тых, хто прыбыў з Вісагінаса, Шаўляя, Грыгішак, Салечнікаў і іншых раёнаў Літвы. Прысутныя цёпла віталі прадстаўніка Мінска — прафесара Анатоля Грыцкевіча, а таксама спадара Валерыя Буйвала; прадстаўнікоў літоўскага парламента з папулярным пачынальнікам адраджэння спадаром Рамуальдасам Озаласам; першага пасла Літвы ў Беларусі — А. Аўгуліса і іншых гасцей.

Прысутнічалі ветэраны барацьбы за незалежнасць Беларусі М. Рулінскі і К. Шышэя з жонкай.

Скімі ўладамі і беларускім насельніцтвам дзяржавы павінны быць цяснейшыя суадносіны. Беларусы павінны мець у парламенце свайго прадстаўніка, каб афіцыйныя дзеячы Літвы (дэпутаты) знаді сітуацыю і актуальныя праблемы, патрэбы беларусаў. Не так важна, у якой форме існавала б беларускае прадстаўніцтва, але важна яго прысутнасць і цяснейшыя кантакты з рашаючымі органамі рэспублікі. Гарачыя воплескі сведчылі, што выступленне паважанага дэпутата было вельмі па часе.

Прадстаўнік дэпартамента нацыянальных меншасцяў Мотузас, віншуючы беларусаў з юбілеем, абрысаваў складаную сітуацыю дзяржавы, якая з немалымі ахвярамі дабілася незалежнасці, але ўзяла пад сваё кіраўніцтва абрабаваны край. Пасля некалькіх гадоў заўзятай, напорыстай працы Літва дабілася сур'ёзных поспехаў у галіне культуры, замежнай палітыкі і эканомікі. Стала на беспаваротны шлях рэформаў і неабходнага супрацоўніцтва з усімі нацыянальнымі дыяспарамі. Нягледзячы на ўсё, дзяржава створыць патрэбныя ўмовы для адраджэння ўсіх народнасцяў краю.

## УРАЧЫСТАЕ СВЯТКАВАННЕ

Адкрываючы ўрачыстасць, старшыня Рады аб'яднаных грамадскіх беларускіх арганізацый Леанід Мурашка працытаваў словы Акта 25 сакавіка, абвешчанага Радай Беларускай Народнай Рэспублікі 80 гадоў таму назад:

"Цяпер мы, Рада БНР, скідаем з роднага краю апошняе ярмо дзяржаўнае залежнасці, якая была накінута доўгія гады на наш вольны і незалежны край. Ад гэтага часу Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчаецца незалежнай і вольнай дзяржавай. Самі народы Беларусі, у асобе свайго Устаноўчага сойму, пастановяць, якой будзе будучыня Беларусі".

Гэтыя словы былі сказаны ў Мінску 25-га сакавіка 1918 года ў трэцяй грамаце. Рада Беларускай Народнай Рэспублікі, як законны суверэнны орган беларускага народа, абвясціла вольнасць і дзяржаўную незалежнасць Беларусі.

Потым прамоўца коратка ахарактарызаваў далейшыя шляхі барацьбы і адраджэння беларускага народа і масавы ўдзел насельніцтва пасля 1905 года. Гэтая масавасць з'яўляецца па сённяшні дзень яркім прыкладам і доказам таго, чаго можа дабіцца народ аб'яднаным дзеяннем.

Ідэя дзяржаўнай незалежнасці Беларусі сталася арганічнай часткай душы ўсяе нацыі, яе рухаючай сілаю, натхненнем на шляху да канчатковай мэты. Воклiч "Жыве Беларусь!" — гучна падтрымалі ўсе прысутныя.

З вялікай увагаю быў выслуханы даклад прафесара А. Грыцкевіча, які, як спецыяліст-гісторык, праілюстраваў перадумовы дзяржаўнасці Беларусі (Полацкага, Навградскага, Тураўскага ды іншых княстваў і аб'яднанай дзяржавы ВКЛ), самастойнае яе існаванне і ўпадак, падзел між імперыямі (Расійскай, Германскай і Аўстра-Венгерскай). Прафесар канстатаваў, што, нягледзячы на часовую няўдачу ў дзяржаўным адраджэнні, "воз не пакоціцца назад". Не толькі бегу гісторыі, але нават рэчкі ніхто не патрапіў павярнуць назад.

Папулярны і стойкі барацьбіт за незалежнасць Літвы — дэпутат парламента Рамуальдас Озалас падкрэсліў бясспрэчную ісціну, што галоўнае багацце любога краю — гэта воля, незалежнасць народа і яго дзяржавы. Беларускі народ гэта разумее і стагоддзямі змагаецца за суверэннасць.

Знаны ўсімі папулярны дэпутат ЛР — Алойзас Сакалас, вітаючы прысутных з вялікім нацыянальным святам, падкрэсліў, што між літоўскімі ўладамі і беларускім насельніцтвам дзяржавы павінны быць цяснейшыя суадносіны.

Пад доўгія і гучныя воплескі прамоўца паўтарыў беларускі нацыянальны кліч: "Жыве Беларусь!"

Акадэмія скончылася выступленнямі П. Малафея (Салечнікі), Рулінскага (Грыгішкі) і Лаўрынавічуса (дыктар беларускіх праграм). Апошні звярнуўся да прадстаўнікоў улады, каб прынялі меры супраць ліквідацыі беларускага канала на літоўскім радыё. Гэтая змена ў беларускіх перадачах адняла б у многіх насельнікаў краю магчымасць слухаць свае родныя перадачы. Тым больш, што для беларусаў і так выдзялялася намнога менш часу, чым для палякаў і расійцаў.

Многія ўжо забыліся, што беларусы Віленшчыны — аўтахтоны на гэтай зямлі.

Акадэмія скончылася нацыянальна-рэлігійнай песняй "Магутны Божа", выкананай усімі прысутнымі.

Пад кіраўніцтвам Валянціны Кавальчук выступіла ў нацыянальных строях група дзяўчат і праспявала некалькі народных песень. Цёпла ўспрыняла зала дуэт (Кавальчук — Іванова) з акампанементам папулярнай піяністкі сталіцы — Знайдзілоўскай. Услед выступіў з лірычнай праграмай А. Старавойтаў.

Некалькі народных песень выканаў хор, сталы рэпрэзентант "Сябрыны", які паспяхова павышае свой узровень. На фоне хору заспявала маленькая вучаніца Наташа Верацённікава, якая выдатна справілася з сваім мастацкім заданнем і выклікала заслужаныя апладысменты.

На высокім прафесійным узроўні выканала дзве песні выхаванка Віленскай кансерваторыі Ступнянэк (чэшка па нацыянальнасці). Як звычайна, яе выступленне выклікала буру апладысментаў.

Удалым заканчэннем канцэрта было выступленне ансамбля з Вісагінаса, які на добрым музычным узроўні выканаў (пераплятаючы танцамі) песні: "Наша свята", "Ножкі хочуць танцаваць", "Родны кут", "Звіняць звончыкі", "Купалінка" і іншыя. Заслугоўвае ўвагі значны прагрэс мастацкага выканання пад кіраўніцтвам прафесіянальнай скрыпачкі Святланы Антанян.

Неахвотна разыходзіліся людзі з гэтай святочнай сустрэчы, са здзіўленнем канстатуючы, што ўсенароднае свята незалежнасці Беларусі не з'яўляецца афіцыйным (нават у юбілейныя дні) дзяржаўным святам метраполіі.

**А. ЗІНКЕВІЧ.**

г. Вільня.

## ЕФРАСІННЯ – МАНУІЛ – БЕЛА III

За апошняе дзесяцігоддзе з'явіліся артыкулы, прысвечаныя гербу Пагоня, асабліва ў той адрэзак часу, калі Пагоня стала дзяржаўным гербам Рэспублікі Беларусь. На жаль, амаль усе аўтары артыкулаў пераказваюць канцэпцыю Тамаша Грыба, апублікаваную ў часопісе "Іскры Скарыны", Прага, 1935, № 5. Паколькі Т. Грыб быў палітыкам і сябрам партыі сацыялістаў, хрысціянская сімволіка пярэчыла ягонаму партыйнаму перакананню, таму ён звярнуўся да аўтараў, якія займаліся вывучэннем міфалогіі. Т. Грыб атаясаміў рыцара герба Пагоня з паганскім бажком Ярылам, а крыж на шчыце назваў крыжам Ярылы. Ягоную канцэпцыю вершніка Ярылы й Ярылавага крыжа падхапілі сацыялісты і камуністы Заходняй Беларусі. У час вайны канцэпцыя Ярылавага крыжа, адаптаваная беларускімі нацыяналістамі, распрапагандаваная, трапіла ў Заходнюю Еўропу, Амерыку, Аўстралію. На Першым з'ездзе беларусаў свету ў Мінску ў 1993 годзе выступілі дэлегаты з Аўстраліі з пратэстам і патрабаваннем "змясціць Ярылаў крыж на шчыце герба Пагоні". Гэтая прапанова знаходзіць падтрымку ў сучаснай Беларусі.

Спынімся на артыкуле Эдуарда Зайкоўскага "Сакральныя вытокі герба Пагоня", надрукаваным у часопісе "Мастацтва Беларусі", Мн., 1990, № 10, і перадрукаваным у зборніку "Пагоня ў сэрцы тваім і маім", Мн., 1996. Будзем цытаваць Э. Зайкоўскага з гэтага зборніка. Ён піша: "Як вядома, крыж на шчыце Пагоня мае дзве папярэчкі аднолькавай даўжыні... такі крыж прынята называць Ярылавым" (с. 89). І далей: "Знаходкі апошніх дзесяцігоддзяў падмацоўваюць гэтае сцверджанне, прычым сведчаць, што такі крыж звычайна звязаны з беларускай этнічнай тэрыторыяй" (с. 90)... У прыватнасці, выява Ярылавага крыжа знойдзена аўтарам на адным з надмагільных камянёў сярэднявечнага могільніка ля вёскі Жукавічы Свіслацкага раёна... Крыжы з паралельнымі папярэчкамі аднолькавай даўжыні выяўлены пры раскопках жаночага пахавання ў паселішчы Сарай Швянчонскага раёна Літвы... О. Кунцэне датуе XIII—XIV стагоддзямі... На свінцовай пломбе або пячатцы драгічынскага тыпу, якая адшукана ў Віцебску, з аднаго боку ёсць выява святога (магчыма, Барыса ці Глеба), а з другога — Ярылаў крыж... Свінцовая пломба з Ярылавым крыжам трапілася ў старажытнабеларускім горадзе Дарагічыне — Надбужскім". (с. 90—91).

Прыведзеныя цытаты сведчаць, што аўтар лічыць крыжам Ярылы толькі крыж з двума папярэчкамі роўнай даўжыні. Выснову Э. Зайкоўскага праверым манетамі Венгрыі, дзе форма такога крыжа сустракаецца. Мы выкарыстаем Dr. Ladislaus Rethny "Corpus Nummorum Hungariae". Akademiscke druck, Graz, 1958 і ягоную нумерацыю манет.

Першыя венгерскія манеты з роўнаканцовым крыжам, які ў нумізматыцы называецца грэцкім, пачаў чаканіць кароль Стэфан, які за ахрышчэнне венграў у 1000 годзе атрымаў каралеўскую карону і аднесены да ліку святых. Наступныя каралі Венгрыі прадаўжаюць чаканку манет з грэцкім крыжам: Петэр, Самуіл, Андрэй, Бела, Саламон, Ладзіслаў, Коламан, Стэфан II, Геза II, Бела II, Ладзіслаў II, Стэфан IV. Манеты пералічаных каралёў ад 1000 года да 1173 года чаканены з грэцкім крыжам. У 1173 годзе каралём стаў Бела III, і тып манет мяняецца, ён пачынае чаканіць манеты з патрыяршым крыжам, верхняя папярэчка карацейшая за ніжнюю.

Зробім невялікі экскурс у гісторыю Венгрыі, каб зразумець прычыну чаканкі манетаў з патрыяршым крыжам. Маці візантыйскага імператара Мануіла — Пірошка была дачкой венгерскага караля Ладзіслава (1077—1095), яе выдалі замуж у 1104 годзе за Іаана Комнена, сына імператара Алексія. Паколькі хрысціянская царква ўжо падзялілася на каталіцкую і праваслаўную, Пірошка прыняла праваслаўе з імем Ірына. У 1118 годзе муж яе Іаан стаў імператарам, Ірына атрымала імператарскую дыядэму, стала імператрыцай. Сын Ірыны Мануіл у 1143 годзе становіцца імператарам. Прайшло амаль 20 год, у Мануіла няма сына, і ён задумаў запрапанаваць каралю Гезу II прысланць сына Белу ў Канстанцінопаль на выхаванне, каб праз яго аб'яднаць Візантыю з Венгрыяй. Бела прыехаў у 1163 годзе, з каталіцтва перайшоў у праваслаўе, атрымаўшы імя Алексій. Мануіл абручыў сваю дачку Марыю з Бела-Алексіем. Бела атрымаў тытул дэспата, які мелі толькі імператары. Атрымаў ён права карыстацца на пячатцы патрыяршым крыжам; гэтую прывілею мелі імператары. Бела-Алексій быў шчаслівым, спадзеючыся ў будучыні стаць імператарам, але ў верасні 1169 года нарадзіўся ў Мануіла сын, спадчыннік імператарскага пасаду. Мануіл па парадзе візантыйскіх вяльможаў скасаваў абручэнне Марыі з Белам, пазбавіў Белу тытула дэспата, але пакінуў яму права карыстацца імператарскім патрыяршым крыжам. Бела вярнуўся ў Венгрыю, з дапамогай Мануіла ў 1173 годзе стаў каралём як Бела III і пачаў чаканіць манеты з патрыяршым крыжам.

Наступныя каралі Венгрыі прадоўжваюць чаканку манет з патрыяршым крыжам, але ёсць тыпа манет, на якіх крыж мае дзве папярэчкі роўнай даўжыні, мы іх пералічым: Андрэй II (1205—1235), Бела IV (1235—1270), Стэфан V (1270—1272), Ладзіслаў IV (1272—1290), Андрэй III (1290—1301), Вензел (1301—1305).

Дынастыя Арпадаў закончылася, запанавала ў Венгрыі дынастыя Анжоў. Яна працягвае чаканіць манеты з патрыяршым крыжам, сярод якіх трапляюцца тыпы манет з крыжам, што мае папярэчкі роўнай даўжыні. Пералічым, пачынаючы з табліцы XXII: Карл Роберт (1306—1342), Людвіг (1342—1382), Марыя (1384—1385), Сігізмунд (1385—1437), Уладзіслаў I (1440—1444).

Спынім пералік манет. Прыведзеныя прыклады сведчаць, што выснова Э. Зайкоўскага не пацвярджаецца нумізматычнай крыніцай адносна крыжа з папярэчкамі аднолькавай даўжыні, што такая форма крыжа сустракаецца на этнічнай беларускай тэрыторыі. Каралі Венгрыі, пачынаючы з Андрэя II, чаканілі манеты з крыжам, што мае папярэчкі аднолькавай даўжыні, бо такі крыж таксама лічыўся патрыяршым крыжам.

Паколькі Візантыя ўзаконіла правы імператараў на карыстанне патрыяршым крыжам і Бела ад імператара Мануіла атрымаў гэтае права, то ўзнікае пытанне адносна крыжа, які зрабіла ігумення Ефрасіння Полацкая, ці яна самавольна зрабіла крыж, ці атрымала дазвол ад імператара Мануіла.

Ведаем, што Ефрасіння Полацкая пасылала пасольствы два разы ў Канстанцінопаль. Праўдападобна, што першае пасольства мела даручэнне прасіць патрыярха ўзяць ейны манастыр у апеку. Думаем, што яе просьба была пазітыўна палагоджаная, бо патрыярх багаславіў яе, прыслаўшы ікону Багародзіцы. Ефрасіння пасля гэтага накіравала другое пасольства ў Канстанцінопаль, гэтым разам атрымаць права на патрыяршы крыж. Выглядае, што гэтая яе просьба таксама мела поспех. Пасольства прывезла частачку Гасподня крыжа і мошчы святых.

Ведаем, што крыж з двума паралельнымі папярэчкамі пачаў распаўсюджвацца на беларускай тэрыторыі, каб пазней стаць радавым гербам Ягайлавічаў і гербам Вялікага Княства Літоўскага.

**Міхась БЕЛЯМУК.**

ЗША.

## «ДЗЮЙМОВАЧКА-98»



**Занальны конкурс "Дзюймовачка-98" прайшоў на Магілёўшчыне ў крычаўскім Доме дзіцячай творчасці. Вучаніцы 3—4 класаў з райцэнтраў чарнобыльскай зоны — Мсціслава, Клімавічаў, Чэрыкава, Хоцімска, Слаўгарада, Краснаполля і Крычава — спаборнічалі ў танцы, спявалі песні, дэманстравалі казачныя касцюмы. Пераможцай конкурсу стала трэццякласніца сярэдняй школы № 1 горада Крычава Каця КАВАЛЁВА.**

**Фота Валерыя БЫСАВА, БелТА.**





**Новая археалагічная экспазіцыя была адкрыта ў Магілёўскім абласным краязнаўчым музеі ў гонар яго 130-годдзя. Яна расказала пра жыццё продкаў у дагістарычны час. НА ЗДЫМКАХ: у зале выставы.**

**Фота Мікалая ЦІТОВА, БелТА.**

# «КАНТАКТЫ І ДЫЯЛОГІ» № 2, 1998

Часопіс адкрываецца інтэрв'ю старшыні Дзяржаўнага камітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь Аляксандра Білыка, якое ён даў часопісу "Кантакты і дыялогі". Споўніўся год працы камітэта, якая вядзецца ў трох асноўных накірунках: рэгуляванне дзяржаўна-царкоўных адносін, вырашэнне праблем нацыянальных супольнасцей у нашай краіне, дапамога беларусам замежжа, узята пад кантроль выкананне Дзяржаўнай праграмы "Беларусы ў свеце", прынятай яшчэ ў 1993 годзе.

Падрыхтаваны праекты канцэпцыі "Беларуская дыяспара", на падставе якой будзе распрацаваны закон "Аб суайчынніках, якія жывуць за мяжой". Дапамога замежным беларусам выяўляецца ў абмене інфармацыяй, падтрымцы іх культурна-асветных ініцыятыў, забеспячэнні беларускіх суполак сродкамі сувязі, камп'ютэрнай тэхнікай, беларускімі сцэнічнымі касцюмамі, іншымі неабходнымі рэчамі. Усяго на дапамогу беларускаму замежжу ў мінулым годзе затрачана каля трох мільярдаў рублёў. Адказваючы на пытанне аб стане міжнацыянальных і міжканфесійных адносін у Беларусі, Аляксандр Білык зазначыў, што вынікі навуковых даследаванняў сведчаць аб устойлівасці добразычлівых адносін паміж прадстаўнікамі амаль усіх этнанацыянальных і канфесійных супольнасцей у беларускай дзяржаве, бо тут для іх існуе вельмі камфортны сацыяльна-псіхалагічны клімат. У Беларусі афіцыйна зарэгістравана 21 рэспубліканскае нацыянальнае аб'яднанне: некалькі яўрэйскіх, польскіх, нямецкіх і літоўскіх, рускае, татарскае, азербайджанскае, малдаўскае, украінскае, курдскае, грэчаскае, карэйскае. На 1 студзеня 1998 года ў Беларусі дзейнічала 2 256 рэлігійных грамадаў (абшчын), сярод якіх — 1 031 праваслаўная, 733 пратэстанцкія, 394 рымска-каталіцкія, 35 стараверскіх, 22 ісламскія, 18 іудзейскіх, 11 грэка-лацінскіх (уніяцкіх), 12 усходніх рэлігій.

У раздзеле "Беларускае замежжа" пад рубрыкай "Старонкі будучага даведніка" друкуюцца звесткі пра беларускага і ўкраінскага гісторыка і правазнаўцу Льва Акіншэвіча; журналіста Алеся Баркоўскага; фізіка-хіміка, акадэміка Расійскай акадэміі навук Віталя Гальданскага; пісьменніка Рамуальда Карнасевіча; інжынера-тэхнолага, даследчыка ў галіне фізікі, хіміі, метэаралогіі, паветраплавання Івана Яркоўскага. Пра Беларускае культурна-асветніцкае таварыства "Уздым" г. Даўгаўпілса, утворанае ў 1992 годзе, расказвае яго старшыня Станіслаў Валодзька. Сябры "Уздыму" адыгрываюць значную ролю ў наладжванні сувязей беларусаў Латвіі і Бацькаўшчыны, абараняюць інтарэсы сваіх суайчыннікаў, звяртаючыся ў розныя інстанцыі латвійскіх улад.

Старонка "Кантактаў і дыялогаў" прысвечана вядомай перакладчыцы і даследчыцы беларускай і латышскай літаратур, доктару філалогіі Мірдзе Абала.

Пад рубрыкай "Хроніка беларусазнаўчага жыцця" змешчана цікавая інфармацыя "Бібліятэка імя Адама Міцкевіча вярнулася ў Мінск". Перадача кніг адбылася ў пачатку года ў Палацы шлюбаў, што ў цэнтры Беластока. З нагоды 200-гадовага юбілею славутага пісьменніка Адама Міцкевіча беластоцкая мэрыя падаравала Мінску, а менавіта Хрысціянскаму таварыству міласэрнасці, бібліятэку — шэсць з паловай тысяч тамоў.

*НАВІНЫ ГРОДЗЕНШЧЫНЫ*

# НАДРУКАВАНАЕ ЗАСТАНЕЦЦА

У Прынямонні стала добрай традыцыяй праводзіць у раёнах краязнаўчыя канферэнцыі. Прысвячаюцца яны самым розным тэмам і зміхоўна прайшлі ў Навагрудку (тут адбылося пяць такіх сустрэч) і Лідзе, Воранаве і Іўі, Ашмянах і Мастах... Матэрыялы большасці з іх выдадзены асобнымі кніжкамі. Нядаўна пабачыла свет кніга аб Шчучынскай навукова-практычнай канферэнцыі вучоных і краязнаўцаў. Выданне змяшчае цікавыя публікацыі аб гісторыі Шчучына і асобных паселішчаў раёна, паўстанні 1863 года, пра такіх слынных землякоў, як Валерый Урублеўскі, Казімір Альхімовіч, Алаіза Пашкевіч (Цётка), Янка Тарасевіч, браты Іваноўскія і іншых. Не абыдзены ўвагай і сённяшні дзень гэтай зямлі.

### «ШАЛОМ» У ДВУХ ТВАРАХ

Колькі гадоў у Лідзе плённа працуе абшчына тутэйшых яўрэяў "Шалом". Такую ж назву носіць і яе музычны ансамбль пад кіраўніцтвам Міхаіла Двілянскага. Нядаўна калектыў з поспехам выступіў у Гродне і Баранавічах. Асабліва хвалюючай была паездка ў недалёкае Іўе. Перад местачкоўцамі поўнае ўзрушэння слова сказала ўраджэнка райцэнтра Тамара Барадач (дзявочае прозвішча Кошчар). Яна паведаміла пра гісторыю яўрэйства на Іўеўшчыне, яго занятак і традыцыі ды трагічны лёс падчас гітлераўскай акупацыі. Затым ансамбль выканаў яўрэйскія песні, пераважна сумныя і тужлівыя. Дэманстраваліся кадры відэазапісу аб жыцці ў Ізраілі, цікавыя фотаздымкі.

### ДАРОГА ДАЎЖЫНЁЙ У ДЗЕСЯЦІГОДДЗЕ

"Як Фенікс з попелу"... "Jak Feniks z popiołu..." Так называецца выдадзеная нядаўна ў Лідзе кніга, якая прысвечана нацыянальнаму адраджэнню мясцовых палякаў у 1987—1997 гадах. Штуршком да абуджэння іх самасвядомасці стаў створаны звыш дзесяцігоддзя таму назад клуб аматараў польскай культуры імя Адама Міцкевіча. А потым на яго базе вырасці Таварыства польскай культуры Лідчыны і тутэйшае аддзяленне Саюза палякаў Беларусі.

Кніга расказвае пра сучасную польскую асвету і культуру на лідскай зямлі, дзейнасць ветэранскіх, маладзёжных і юнацкіх арганізацый, сусветныя з'езды лідчан, якія праводзяцца ў горадзе, і многае іншае. Выданне багата ілюстравана і выпушчана пад рэдакцыяй Аляксандра Калышкі, старшыні праўлення Таварыства польскай культуры Лідчыны.

### ДА ВЕДАМА БЫЛЫХ ДЗЯТЛАЎЧАН

Летам 1998 года горад Дзятлава ўрачыста адзначыць сваё 500-годдзе. На свята чакаецца прыезд ураджэнцаў горада і раёна з розных куткоў Беларусі і суседніх краін. А пакуль тут ідзе падрыхтоўчая работа да прыёму гасцей, добраўпарадкаванне гарадка і г. д. Вядома, на гэтыя мэты ўносяцца добраахвотныя ахвяраванні прадпрыемстваў, устаноў і асобных грамадзян. Такія грошы райвыканком просіць пералічваць на рахунак № 3732200340230 у Дзятлаўскім АСБ "Беларусбанк".

**Алесь ЖАЛКОЎСКІ.**

*НОВАЕ ВЫДАННЕ*

# «ВЯЛІКІЯ ДАРОГІ» УЛАДЗІМІРА ГЛЫБІННАГА

Беларускі празаік і літаратуразнавец на эміграцыі Уладзімір Глыбінны (1910—1995) раман "Вялікія дарогі" пісаў у 40-я гады ў Германіі. Пачатак яго друкаваўся на старонках навукова-літаратурнага часопіса "Веда" ў 1952 годзе, які выходзіў у Нью-Йорку. Асобныя раздзелы былі апублікаваны таксама ў газеце "Бацькаўшчына" ў студзені 1955 года і ў часопісе "Беларускі свет", пачынаючы з 43-га нумара. На жаль, асобнага выдання аўтар так і не пабачыў. Бо з'явілася кніга "Вялікія дарогі" Уладзіміра Глыбіннага напрыканцы мінулага года, дзякуючы Беларускаму Інстытуту навукі і мастацтва ў Нью-Йорку і Міколу Прускаму, якія выданне фінансавалі і друкавалі.

Уладзімір Глыбінны (сапраўднае прозвішча Сядура) пакінуў пасля сябе некалькі кніг мастацкай прозы — "На берагах пад сонцам" (1964), "На святой зямлі" (1972) і "Пад лебядзіным знакам" (1983). Новы раман "Вялікія дарогі" амаль аўтабіяграфічны. Разам з тым ён ахоплівае даваенны і ваенны час Беларусі, жыццё і дзейнасць беларускай інтэлігенцыі, якая была рэпрэсіравана і якая заставалася пад нямецкай акупацыяй.

Галоўны герой рамана — Кастусь, ён жа сам аўтар "Вялікіх дарог". Усё ўбачанае і перажытае ім лягла ў аснову рамана. Дзесяткі знаёмых прозвішчаў сустракаюцца на старонках твора. Адны — пад сапраўднымі прозвішчамі, іншыя — пад псеўданімамі. Дарэчы, увесь раман прысвечаны памяці беларускага паэта Змітрака Астапенкі. У рамане Змітрок Астапенка — гэта паэт Дземех Астаповіч. Вельмі цікавыя і карысныя аўтабіяграфічныя факты з жыцця гэтага таленавітага паэта занатаваў Уладзімір Глыбінны. Аказваецца, сляды З. Астапенкі губляюцца ў Славакіі каля горада Зволен па дарозе з Рымаўска-Собата. Адтуль ён на нямецкай і беларускай мовах напісаў свой апошні ліст у берлінскі Беларускі камітэт: "Дарагія, невядомыя мне й незнаёмыя тут нікім беларусы! Пішу вам гэты ліст надта сьпяшаючыся, каб не памерці, ня скончыўшы яго, тут сярод невядомых палёў Славаччыны. Піша яго беларускі паэт Дземех Астаповіч, што вайсковымі падзеямі закінуты ў далёкую Славаччыну й цяпер бадай-што даходзіць самотным на капе на лузе. Я знаходжуся недзе каля Зволена па дарозе з Рымаўска-Собата, куды быў закінуты з самалёта для выкананьня заданьня. Але я ненавіджу бальшавікоў, як найбольшых сваіх ворагаў. Яны ламалі ўсё маё жыцьцё й нарэшце, здаецца, зламалі канчаткова. Я ўжо не маю сілаў, каб выбрацца з гэтае апошняе мае бяды. Аднак я хачу, каб сьвет ведаў, што я ня зьмі, я супраць іх, гэтых супастатаў усяго чалавецтва..."

У Берліне ліст Змітрака Астапенкі быў перададзены беларусам. Але было ўжо позна. Знямоглага і пакалечанага вайною паэта арыштавала галоўная паліцэйская ўправа Зволена, якая працавала тут пад пратэктаратам немцаў. "На прыступкі будынка ён ужо ня мог сам падняцца, і яго пад пахі валачыў той-жа чалавек, які затрымаў яго. З тое хвіліны абарвалася пагудка пра зямное існаваньне беларускага паэта ў ролі разведчыка", — піша Уладзімір Глыбінны.

Добрымі словамі аўтар успамінае і апісвае творчую і палітычную дзейнасць Францішка Аляхновіча, Вацлава Іваноўскага, Уладыслава Казлоўскага, Радаслава Астроўскага і іншых прадстаўнікоў беларускай інтэлігенцыі. Адначасова Уладзімір Глыбінны асуджае зверствы гітлераўцаў, іх здзекі з яўрэйскага і беларускага народаў.

Раман "Вялікія дарогі" — маленькая энцыклапедыя, якая заслугоўвае сур'ёзнай увагі і падзякі тым, хто над ёю працаваў і друкаваў.

**Сяргей ЧЫГРЫН.**

## 1998-мы – ГОД АДАМА МІЦКЕВІЧА



**Славутая альтанка, дзе сустракаліся Адам МІЦКЕВІЧ і Марыля ВЕРАШЧАКА.**

**Фота Рамана КАБЯКА, БелТА.**

Калі малітва была скончана, яны прыселі. На стале стаялі паміж закусак сідр і піва. Гаспадар наліў усім у шклянкі сідру.

— Ты, можа, ужо да віскі прызвычаіўся? — глянуў у бок работніка.

— Каб прызвычаіцца, то не, але каштаваць даводзілася.

Чокнуліся шклянкамі.

— Добрае свята! — сказаў Іван, выпіўшы сідр і наразаючы хлеб. — Яно і сапраўды нагадвае, што чалавек створаны для дабра і справядлівасці. У будныя дні мы не заўсёды пра гэта помнім.

Нешта падобнае гаварылі і квакеры, калі прускавец наведаў іх селішча.

Іван зноў наліў сідру, Мелані разрэзала індзейку, і яны ўзялі па кавалку.

— Квакеры, — не стрымаўся Лявонка, — таксама лічаць, што чалавек здраджвае свайму прызначэнню і паводзіць сябе як заваёўнік, рве ўсё навокал, калечыць, знішчае.

Гаспадар засмяяўся:

— Дурні твае квакеры! Што яны разумеюць! "Рве, знішчае..." А хіба ён мала будуе, стварае дабрабыт, пра законы думае, каб парадак быў?

Як дэмакрат паводле сваіх поглядаў і жыццёвага вопыту, ён, як і бацька, не прызнаваў ніякіх аўтарытэтаў, акрамя Біблії, недзе ў глыбіні душы таіў думку аб сваёй перавазе над усімі. Тут такіх шмат. Але, мусіць, прускаўца не ва ўсім пераканалі ягоныя довады. У нечым мелі рацыю і квакеры:

— Калі падумаць, дык вось так бясконца будуць будаваць заводы, пракладваць дарогі, пашыраць гарады — і жывога месца на зямлі не застанецца...

запрашэнне прагучала нечакана. Ён падумаў, што калі хто з прускаўцаў перамяшчаўся ў які-небудзь іншы куток Расійскай імперыі ці выязджаў за мяжу (што здаралася надзвычай рэдка) і заставаўся там (што было ўжо і зусім рэдка), памяняўшы бацькаўшчыну на новае месца жыхства, дык, трэба сказаць, яго не асуджалі, а хутчэй згаджаліся з учынкам чалавека: значыць, там лепш. Лявонка пра гэта ведаў.

— Узл? — як бы яшчэ раз падштурхнуў Іван.

Сапраўды! Павінен жа ў чалавека быць свой дом. Над гэтым прускавец думаў не раз.

— Заставайся! — падхапіла Мелані. — Завядзеш свой бізнес!..

Ён уздыхнуў, пачасаў патыліцу і шчыра прызнаўся:

— Дадому цягне, маці ў мяне там засталася, сёстры...

— Выпішам іх сюды — і маці, і сясцёр! Работы ў Амерыцы вунь колькі, хопіць усім!

І Мелані ўхвальна ківала галавой.

— Падданства возьмеш!

Адчувалася, што гаспадары шчыра паважалі работніка, а можа нават мелі на яго і якісьці свае віды.

— У мяне яшчэ і дзядуля ёсць...

— І дзядулю!

— Стары ён, не вытрымае дарогі. Ды і спраў шмат: хату трэба дабудаваць, можа, зямлі ўдасца прыкупіць, каня добрага, пару кароў...

Пасля гэтага яны нейкі час маўчалі.

— Што ж, у кожнага свае планы, свае мэты, — услых падумаў Іван. — О'кей!

**Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ**

# ПРУСКАЎСКІ УЛІС

Мелані частавала сваімі стравамі. Выпілі яшчэ па шклянцы сідру. У галаве захарашэла, яны павяселелі, зноў сталі закусваць.

— Зямлі ў Амерыцы хапае! — Іван паглядзеў на свайго работніка, — Бог любіць Амерыку!

Лявонка расказаў, як ён аднойчы трапіў на мітынг у Дэтройце, на якім выступалі розныя прамоўцы і кожны гнуў у свой бок, як заарыштавалі яго земляка Кляновіка.

— Выпусцяць! — махнуў рукою гаспадар і стаў дапіваць сваё піва.

— У вас, я гляджу, рэвалюцыянераў не надта паважаюць...

— А хто іх паважае! Гэта бязбожнікі і гультаі. Працуючы так, як мы працуем на ферме, няма часу бунтаваць!

Мелані напіла ўсім піва, выпіла сама, паднялася з крэсла і выйшла на кухню. Хоць свята, але спраў шмат.

— У Амерыцы, браце, рэвалюцыя непатрэбная. Тут ніхто нікому не замінае. Жыві, займайся сваёй справай, паважай законы...

Іван, як і бацька, выпісваў мясцовую украінскую газету "Свабода", і нешта цюкнула яму ў галаву, бо ён падняўся, выйшаў у суседні пакой і вярнуўся адтуль з газетай.

— Вось паслухай, што піша "Свабода" пра гэту РСДРП: "Пануе страшний централізм, такий централізм, що центр партії, ...управляе партією, неначе цар який".

— РСДРП — гэта партыя рускіх рэвалюцыянераў.

Лявонка пра гэта ведаў.

— Дык вось, — працягваў Іван, — у доказ газета разбірае статут РСДРП, у якім адбіліся выразныя цэнтралістычныя тэндэнцыі. Гэта тое самае самадзяржаўе.

— Яны дзейнічаюць падпольна, — сказаў Лявонка, — а канспірацыя патрабуе дысцыпліны.

— Усё роўна да дабра гэта не давядзе! Выйшла гаспадыня і абвясціла:

— Торт з кавай!

— Пачакай, дарагая, — спыніў яе муж, — тут у нас гаворка цікавая.

— Дык адно другому не шкодзіць.

Мелані ўнесла торт, кафейнік, кубачкі. Гаспадар пагледзеў на свайго работніка, прыязна ўсміхнуўся:

— Дык вось, дружа-беларус, заставайся ў нас.

Лявонка ўжо пераканаўся, як пацыпелі адносіны да яго з боку гаспадароў. Чэсць і працавітасць хлопца, відаць, прыйшліся даспадобы, але тым не менш

Будзе відаць! — махнуў ён рукой і разліў у шклянкі рэштки сідру.

Часцей сталі прыходзіць лісты з Прускі, якія ён перачытваў па некалькі разоў. Пачыналася яшчэ адна амерыканская зіма. Магчыма таму ўзмацніліся сум, душэўная трывога. Іван і Мелані бачылі яго стан. Неяк гаспадар сказаў:

— Чаго ты зажурыўся? Вазьмі закуры, весялей будзе!

Яны закурылі, але курыць не хацелася, і запаленая цыгарэтка пагасла. Іван параіў:

— Грошай крыху пашлі. І табе, і ім весялей будзе.

Іх размову чула Мелані:

— Лявон, ты ўвесь час адзін ды адзін, гэта не нармальна. Табе патрэбна гаспадыня.

Мелані наставіла на яго свае вялікія чорныя вочы.

Ён спачатку нічога не адказаў, успомніў Аннет, а потым адмоўна пакруціў галавой:

— Жаніцца мне няма як, місіс Мелані, мяне дома чакаюць. Я там за гаспадара...

— А мне, па праўдзе кажучы, — Іван падмаргнуў жонцы, — зяць патрэбен. Камусьці трэба ж ферму пакінуць...

Відаць, і Мелані была такой жа думкі.

— А што ты там рабіць маеш, на радзіме сваёй? — спачувальна ўздыхнуў Іван.

— Што ўсе робяць. Поле араць...

Іван стрымана ўсміхнуўся:

— Сахою?

— Нічога! З цягам часу з Амерыкі "Фардзон" выпішу! Калі гаспадаром стану,.. — чамусьці раптам шкада стала і гаспадара, і гаспадыню. Столькі добрага яны яму зрабілі. — А можа і вярнуся. Жыццё пакажа.

— Лепш, чым у нас, ты нідзе не знойдзеш! Узл! — усміхнуліся і гаспадар, і гаспадыня і разышліся: у кожнага была свая праца.

Тонкім, бліскучым ільдом пакрываліся лужыны. Патроху цярушыўся снег. Лявонка чысціў сцежку ад ганка да стадолы, кінуў коням канюшыны, разам з гаспадаром пакарміў кароў. Захацелася яшчэ раз перачытаць атрыманы нядаўна ліст з Прускі. Ён зайшоў у "павільён", узяў са стала ліст і разгарнуў яго. Ліст, запоўнены вялікімі няроўнымі літарамі, пісала, Барбарка:

"Дарагі сынок, брацік і ўнучак! Як ты там маешся? Жывы, здаровы? О, як бы мы хацелі глянуць хаця б здалёк на цябе, што ты там парабляеш, ці можа забыў пра нас. Гэта ж прайшло столькі часу. Ад Спаса мінула ўжэ шэсць гадоў, як ты ў той Амерыцы. Добра, што ты адмовіўся ад амерыканскага падданства. Нашто яно табе! Вяртацца пара.

Працяг.
Пачатак у №№ 11—14.

З ЧУЖЫХ СТАРОНАК

# ЗНАК БЯДЫ ВАСІЛЯ БЫКАВА

Яго новая кніга выйшла тыражом 750 экземпляраў на грошы, сабраныя народам

Выхад новай кнігі "Сцяна" Васіля Быкава абрадаваў і засмуціў прыхільнікаў яго творчасці адначасова. Засмуціў у першую чаргу мізэрна малым тыражом, несупаставімым з маштабамі асобы аўтара, — усяго 750 экземпляраў. А абрадаваў тым, што кніга, нягледзячы на свой складаны лёс, усётакі ўбачыла свет. Здавалася б, "палічны" час кніг і фільмаў, якім славілася савецкая сістэма, адышоў у мінулае, але, як высветлілася, не ўсюды.

Новая кніга Васіля Быкава, якая складаецца з апавяданняў апошніх гадоў, амаль два гады праляжала ў дзяржаўным выдавецтве "Мастацкая літаратура", пасля чаго была вернута аўтару з паведамленнем аб немагчымасці яе выхаду ў гэтым выдавецтве. Як сказаў сам пісьменнік, без якіх-небудзь тлумачэнняў. У рэшце рэшт пасля аб'яўленай падпіскі на збор грошай для выхаду ў свет кнігі незалежнае выдавецтва "Наша ніва" ажыццявіла гэты праект, які атрымаў назву "Народная кніга". Сродкаў хапіла толькі на трохзначны тыраж, таму і пісьменнік з сусветным імем застанецца без ганарара.

Зрэшты, Васіль Уладзіміравіч рады, што кніга выйшла ў аўтарскім варыянце, без усякага націску звонку. "Я ведаю, што асабістыя крыўды ў гэтай сітуацыі зусім недарэчы. Тое, што адбываецца, — вышэй за асабістыя амбіцыі. Бо цяперашняя ўлада падтрымлівае толькі тых, хто ёй служыць", — сказаў ён "Известиям".

Апошнія гады пісьменнік быў у апазіцыі да беларускай улады — спачатку ў яўнай, выступаючы ў прэсе з дастаткова рэзкімі публіцыстычнымі артыкуламі, потым — у апазіцыі ўнутранай і проста змоўк. Нібы забылася пра яго і ўлада: ніякіх яўных канфліктаў. Успомніла толькі аднойчы, у мінулым годзе, калі Барыс Ельцын узнагародзіў Васіля Быкава ордэнам Дружбы, і два беларускія міністры — замежных спраў і культуры — павіншавалі пісьменніка. У сябе ж на радзіме Быкаў жыве на пенсію, якая ў пераліку на "зялёную" валюту складае каля 60 долараў, паранейшаму для многіх з'яўляецца духоўным гонарам нацыі, напэўна, таму так хочацца зразумець, чым жа не задаволіла выдавецтва "Мастацкая літаратура" новая кніга яго пастаяннага ў мінулым аўтара.

Магчыма, уся справа ў тых "дробных асколках нашай вялікай праўды", якія на фоне новых ідэалагічных клішэ сённяшняй беларускай рэчаіснасці гучаць зусім у іншай танальнасці, але якія, як спадзяецца аўтар, каму-небудзь будуць патрэбныя. Зрэшты, Быкаў заўсёды гучаў у іншай танальнасці: з цяжкасцю верыцца, што ў савецкі час змадэляваныя ім пагранічныя сітуацыі і характары, прасякнутыя духам славутага заходняга экзістэнцыялізму, а таксама адсутнасць сярод галоўных герояў "абавязковай праграмы" асобе партыйных і камсамольскіх сакратароў, замп@літаў і камісараў, маглі падабацца ў высокіх кабінетах. Але ён быў занадта прыкметны і таленавіты, для таго каб "пакласці яго на паліцу". Ён і сёння занадта таленавіты, для таго каб агарадзіць яго сцяной маўчання.

Быкаў стварае ўласную "Сцяну", якую насяляе нязвыклымі для беларускай літаратуры героямі, напрыклад, удзельнікамі антыбальшавіцкага паўстання 1920 года ў Слуцку і далёкімі ад гераічнага флера партызанамі ці піша аб жорсткасці савецкіх салдат у Германіі ў канцы вайны. І ўжо аднаго гэтага дастаткова, каб у Беларусі, традыцыйна кансерватыўнай ва ўспрыняцці мінулай вайны, гэта выклікала вялікія апасенні выдавецкіх і іншых чыноўнікаў. Акрамя ўсяго іншага, гэта зноў іншая танальнасць у краіне, якая перайшла на гераічныя маршы.

Але ж нешта дало права Чынгізу Айтматаву сказаць пра Быкава: "Лёс збярог нам Васіля Быкава, каб ён жыў і пісаў ад імя цэлага пакалення, ад імя тых, хто юнаком пазнаў вайну і ўзмужнеў духам са зброяй у руках, для каго дзень жыцця быў роўны веку жыцця".

**Святлана КАРПЯКОВА.**
**("Известия").**

ПРЭМ'ЕРЫ



**У Дзяржаўным тэатры музычнай камедыі Рэспублікі Беларусь прайшла прэм'ера спектакля "Дарагая Памела" па п'есе Дж. Патрыка. Прымадонна тэатра Наталля Гайда іграе галоўную гераіню Памелу — адзінокую немаладую жанчыну, якая туліцца са сваім катом у падвале закінутага, старога дома.**

**Багатая палітра драматургіі Дж. Патрыка ў літаратурна-сцэнічнай рэдакцыі рэжысёра-пастаноўшчыка Барыса Вторава дае акцёрам шырокія магчымасці для самавыяўлення і пошуку фарбаў для стварэння вобразаў.**

**У п'есе ўсяго сем персанажаў, але ўсе яны так вядуць спектакль, што складаюць адзінае цэлае. Суладдзе акцёрскага ансамбля, выдатная рэжысура, сучасная музычная стылістыка аранжыроўкі, якую ажыццявіў заслужаны артыст Беларусі Уладзімір Ткачэнка, цудоўныя дэкарацыі, створаныя народным мастаком Беларусі Барысам Герлаванам, харэаграфія ў пастаноўцы народнага артыста Беларусі Уладзіміра Іванова робяць спектакль прыгожым, даступным. Гледача захоплівае і тэма п'есы, якая даволі сучасна гучыць, і ігра акцёраў — у зале пануе ўважлівая цішыня. Трэба думаць, што спектакль стане яшчэ адной удачай народнай артысткі Беларусі Наталлі Гайды і яе калег па творчаму цэху.**

**НА ЗДЫМКУ: сцэна са спектакля.**

**Фота Аркадзя НІКАЛАЕВА, БелТА.**

# З ВЁСКІ ЗАЛОЗКІ НАД НЁМАНАМ

Над Нёмнам дзянёчкі плывуць, як вада,
Гады ўсё праходзяць старонкай,
Мужчыне ніколі ў жыцці не бяда,
Калі у яго працавітая жонка.
Умела Барбара і сеяць, і жаць,
І прасці зімою кудзелю,
А напрадвесні на кросенцах ткаць
Харошаму мужу адзенне.
Выгляне сонца ў весняны дзянёк,
А Барбара ўжо сцеле палотны.
І бусел клякоча, і бачна здалёк:
Красуюцца вішні ля плоту.
А кужаль быў тонкі, і Коля, як пан,
Хадзіў у вытканай зрэбнай кашулі.
У нас трэ, каб не горш, як з крамы, каптан
Мужчыны ў царкву апранулі.
Ботаў, што праўда, не многа было —
Адныя для ўсіх часам ў хаце,
Ці некалькі можа ўсяго на сяло,
А найбольш сарамятныя лапці.
Цяжка прыйшлося калісь працаваць:
Гараць, цягнуць з Нёмана сеці.
Усё ж лёгенька ў лапцях было танцаваць,
Калі весялосць была ў сэрцы.
У лапцях хадзілі, у тканым бяллі,
Кажух быў заместа ватоўкі.
Усё ж мы па сёлах як людзі жылі,
Сыны паднявольнай старонкі.
Як пушчы, як дрэвы, на роднай зямлі
Карэннямі ў глебу ўрасталі,
Жылі па-суседску, па-людску з людзьмі,
Сыноў, як дубоў, гадавалі.
Навукі і школаў для нас не было,
Пару класаў і тыя па-польску.
Мы дыхалі продкаў святым таралом,
Адвечнаю мудрасцю вёскі.
Так Коля з Барбарай жылі, працавалі,
А над Беларуссю кружылі буслы,
І іхняе хаты яны не міналі
Ды дзетачак трое для іх прыняслі.
І прынеслі б яшчэ можа болей
Спраўных сыночкаў на іхні парог,
Калі б не вайна, не бяда, не няволя,
Якую паслаў на зямлю нашу Бог.
І зноў на вайну тую ішлі мільёны,
З іх мала хто з бою вярнуўся дамоў.
І Коля здаў лейцы сыночку Сямёну,
А сам, як і ўсе, на змаганне пайшоў.
Пакінуў салдат і каня, і кароўку,
І дзетак маленькіх, і родны куток,
На мілага сябра, на верную жонку,
Пакінуў і выцер слязу незнарок.
Свой Нёман пакінуў, братоў і краіну,
Усё дарагое пакінуў ў жыцці,
Пайшоў на вайну, дзе так лёгка загінуць
І цяжка жывому дахаты прыйсці.
Што ж, вайна дык вайна, гэта бой і агонь,
Смерць там штодня заглядвае ў вочы,
Гэта і раны, і страшны палон,
У які бедны Коля наш трапіў аднойчы.
Пяцьдзесят тысяч няшчасных, як ён,
Іх у Драйчэз-Шаляр загналі у лагер.
О, колькі пакутаў з тых жудасных дзён,
І здзекаў варожых, і лютае звягі.
З голаду пухлі, і з дрэваў кару
Елі, як звер той ў галодныя зімы.
І мерлі салдаты, усё меншаў іх круг,
Аж вораг на дзве пагрузіў іх машыны...
"Чатырнаццаць тысяч чатырыста сорак сем" —
Запомніўся нумар той на цэлы век.
Людзі як людзі на свеце усе,
А ты толькі нумар, не чалавек...
Здаецца, той нумар да Колі прырос,
Болем знявагі пячэ яму грудзі.
Куды б ні закінуў ў жыцці яго лёс,
Праклятага нумару ён не забудзе.
Здохлага ў полі каня адкапалі,
І галодныя людзі на падла напалі.
Кожны кавалак сабе сілай урваў
І, згаладнелы, падліну жаваў.
Але беларус наш не быў вельмі спрытны,
Ён выхапіў конскае толькі капыта.
Шчаслівы быў Коля, бо хто еў каня,
Дык той не дажыў да наступнага дня.
Можа то жонка у Бога ўпрасіла,
Каб даў яе Колі цярпенне і сілу,
Ці плакалі дзеці па бацьку ўначы,
Як ў горы суровым яму памагчы.
Ён у 85 кілаграмаў паехаў,
На 32 у няволі аж з'ехаў.
Як бадылёчкам, ім вецер хістаў,
Сямейку сваю ў цяжкі час ўспамінаў.
І родную хату над Нёмнам ў сяле,
І бохан сялянскі на белым стале,
І чулыя братнія сэрцы ў бядзе,
Дзе літасць ад веку была у людзей.
Не, не школа пакінула ў сэрцах сляды,
А людзкасці нас навучылі дзяды,
Каб брат не загінуў, каб сябра акрэп,
З людзьмі мы дзялілі апошні наш хлеб.
Хоць няволяй падмяты калінавы куст,
Дык усё ж чалавечнай слыве Беларусь...
Заплакаў наш Коля ад хаты ў далі,
І душой пакланіўся радзімай зямлі.
Усіх непамёрлых, галодных і ў ранах
Суровыя злыдні прывезлі да пана:
Дарма працаваць, ураджаі збіраць,
Здзекі цярпець і далей галадаць.
Роберт-памешчык лепш Колю пазнаў,
Дык пазней воз і коні яму перадаў.
Памешчык далёка, а тут, як упыр,
Зноў Ёрдан ля Колі, ліхі брыгадзір.
Нікому не верыў, людзей не любіў,
А Колю, як звера, ўсё шомпалам біў.
Так Коля без руху два тыдні ляжаў,
Пабітыя плечы ледзь-ледзь разгінаў.
Убогі той Ёрдан, суровы на здзіў,
І бедны народ, што такога зрадзіў,
Што мучыць і б'е безабаронных на смерць,
Такога пакуль што у нас не сустрэць.
Не ўсе, аднак, немцы без сэрца і веры,
Не ўсе былі злыдні, не ўсе былі звяры.
Шміт Ота ў Берліне, што некалі жыў,
Нявольнікаў нашых, чым мог, тым карміў.
Як мог, памагаў ім ў суровым палоне,
Што нават купіў ім маленькі гармонік.
Прыгожа, цудоўна нявольнік іграе,
Што нават нямецкія сэрцы кранае.
Пачуў той гармонік нямецкі паніч,
І ўжо не падняўся ў руках яго біч.
І замест ударыць на хлопца кіўнуў
Ды папяросу яму працягнуў.
Як выйсці на волю, як есці, як піць,
Так захацелася хлопцу курыць.
І ўсё ж папяросу ён ў вусны не ўзяў,
А кінуў на зямлю й нагой растаптаў...
Пасля ўсіх мучэнняў, удараў ліхіх
Варожае ласкі не трэба для іх.
Каб вытрываць, выжыць, ды каб давялося
Ўтаптаць гада у зямлю так, як папяросу...
Што ж, прыйшоў час ўсім, здаецца, цярпенням,
Ішла армія Саветаў, нясла вызваленне.
І людзі, як цені, віталі сваіх,
Спагады і волі чакалі ад іх.
І як ні былі ім нявольнікі рады,
Усё ж не знайшлі тут спагады і праўды.
Не адаслалі нікога дахаты,
А нашага Колю забралі ў салдаты.
Быў ў Колі начальнікам Панамароў,
Камандаваў іхнім атрадам.
Салдацкая справа: заўсёды гатоў
Выконваць баявыя загады!
І не заціхала ліхая вайна,
Адныя другіх забівалі,
Усё ж-такі немцы слабелі штодня,
А нашы на іх наступалі.
Розна бывае ў суровай вайне:
Перамога, палон ўперамешку,
То пад канём, то зноў на кані —
Крутыя жыццёвыя сцежкі.
Вайна набліжалася хутка к канцу
Праз усе чалавечыя мукі.
Раз спірту шукалі, і Колі-байцу
Папаўся сам Ёрдан у рукі.
Са страху нягоднік збялеў і дрыжаў,
Убачыўшы Колю-салдата.
Ён літасці з боку байца не чакаў,
А хутчэй чакаў лютай расплаты.
Успомніў баец і пабоі, і жах,
Мукі, голад, і боль, і цярпенні,
А Ёрдана жонка і дзеці ў слязах
Ужо пасталі прад ім на калені.
Прасілі, каб злыдню жыццё дараваў,
Самыя баяліся смерці,
А Коля суддзёю над імі стаяў,
І крыўда ўздымалася ў сэрцы.
І кроў забурліла аж недзе з глыбінь,
Кроў продкаў мужыцкіх прыгонных:
Яны біліся мужна адзін на адзін,
Усё ж не білі у жыцці безабаронных.
Скурчыўся Ёрдан, нягоднік і трус:
"Што ж, помні, ліхі чужаземец,
І Богу падзякуй, што я беларус,
Што я чалавек, а не немец".
З ласкі маёй уставай і жыві,
Калісьці і так акалееш,
Напіўся даволі ты нашай крыві,
Але мы "піць крыві" не умеем.
Пакайся за подласць, за здзек, за прымус,
Біся пакорна у грудзі.
Знай, ёсць на свеце зямля Беларусь,
Яшчэ там ёсць сапраўдныя людзі!
Вось я непісьменны, без класаў і школ,
Хоць помста у сэрцы бушуе,
Перамагаю свой гнеў і свой боль,
Жыццё табе сёння дарую!
Ёсць край найдарожшы, дзе Нёман плыве,
Лясы там, пясчаныя землі,
Вякі там славутае племя жыве,
І я прадстаўнік таго племені!
Калісьці з людзьмі жыў вялікі Хрыстос,
Праз любоў навучаў і праз роўнасць,
Жыццё за людзей ён ў ахвяру прынёс,
Гэта Ён загадаў нам дароўваць.
Вы кажаце: бедныя, цёмныя мы,
Чужынцаў нявольнікі вечныя.
Дык хто з нас ад свету і хто з нас ад цьмы,
Судзі ж сёння сам, чалавеча!
Прыйшла перамога, падбіты Берлін,
І выгляд руінаў злавешчы,
І радасць такіх незабытых хвілін,
Як на Эльбе славутая стрэча.
Водгулле сціхла крывавай вайны,
І мірны ужо сорак пяты.
Лічыў, пералічваў, дзе ўпалі сыны,
І да сем'яў варочаў салдатаў.
Аднойчы і Коля над Нёман прыйшоў,
У родную хату, ў Залозкі.
У баях, у няволі ён многа гадоў,
Як не бачыў радзімае вёскі.
Барбара змянілася, сыночак акрэп,
Дачушкі ўжо павырасталі,
Была свая хата, карова і хлеб,
І толькі ўсе бацьку чакалі.
Як добра да роднае хаты прыйсці,
Цякуць слёзы па змучаным твары.
Ён ўспомніў цяпер, як ніколі ў жыцці
Нават не прыкрыкнуў на Барбару.
Вярнуўся таму, што так многа цярпеў,
Бедаваў у гэтым пекле палонным,
А, магчыма, таму, што стрымаў боль і гнеў,
Не мучыў і не біў безабаронных.
Так вярнуўся, ступіў гаспадар на парог,
Усю сямейку застаў ў сваёй хаце,
Мо таму, што ў жыцці рабіў людзям дабро.
Рабіць зло кожны дурань патрапіць.
Зарунеюць палі, засінеюць ляны,
Калі цяжкай пакутнай дарогай
Зноў вярнуўся жывым гаспадар іх з вайны,
Знача, варт быў ён гэтага ў Бога.
Яго школай была мудрасць нашай зямлі,
Мудрасць нашых былых пакаленняў,
То ад іх мы сваю працавітасць ўзялі,
Вытрываласць і чыстасць сумлення.
І хоць час наш з мінуласцю не параўнаць,
Сёння школы, машыны на свеце,
Усё ж быць як людзьмі, як людзей шанаваць,
Ад дзядоў няхай вучацца дзеці.
Па вайне зажылі Коля з Барай нязгорш,
Пайшлі дзеці у школу вучыцца.
А дзе праца і толк, там і спорыцца грош,
Дык было ўжо за што зачапіцца.
Не вузенькі надзел, не кавалак зямлі,
Як калісь ў нашым краі вялося.
А асвету яны сваім дзецям далі,
Каб лягчэй ім на свеце жылося.
Бо з асветаю сёння другі чалавек.
А не ўсім так жыццё дагадзіла:
Пару тыдняў ўсяго за дзіцячы свой век
Бара бедная ў школу хадзіла.
Часам сніліся ноччу алавік і папер,
І ахвота была да навукі.
То таму так рашуча бабуля цяпер
Заганяе вучыцца унукаў.
А прайшло з таго часу нямала ўжо год,
Як гулялі над Нёмнам вяселле.
Раскусціўся, разросся харошы іх род,
А ў дзядоў ўжо чубы пабялелі.
Усё працуюць яшчэ, часам чарку п'юць,
Калі ў хату радня сабярэцца.
І старыя, забытыя песні пяюць,
Што плывуць аж з-пад самага сэрца.
Як вякі, гоніць хвалі тут Нёман стары,
Нешта з ветрам гамоніць Залозка,
І ў глыбокую плынь, у крутыя віры
Ловіць песняў другіх адгалоскі.
Ўспамінаюцца Нёмну старыя часы.
Часам голад ў сяле напрадвесні.
На плытах дзяцюкі. Скрозь бары і лясы
І тужлівыя родныя песні...
Сіні Нёман плыве, абмінае сады,
Недзе ў даль нашу мову адносіць,
Топіць песні ў вадзе, заціраe сляды,
Ды вятры па ёй толькі галосяць.
Служыць Нёман цяпер быццам людзям другім,
Ім машыны і трактары мые.
Ўжо не беляць палотнаў жанчыны над ім,
Вады коні не п'юць вараныя.
Толькі часам вясной запяюць салаўі,
Ды бывае ў вялікае свята
На мурожных лугах, у зялёным гаі
Яшчэ песню зацягнуць дзяўчаты.
Калі скончыцца дзень і сум душу кране
Успамінам трывожачым нейкім,
Дык, здаецца, чутно, як калісь, як раней,
Быццам плача над доляй жалейка.
Стаяць сумна сягоння над Нёмнам Залозкі.
Вечарамі ніхто тут не тчэ, не прадзе.
Хаты новыя, ды не пазнаць старой вёскі,
Але ў хатах багатых ўжо менеі людзей...
Як буслы, сыны з гнёздаў сваіх адлятаюць,
Іх ўжо Нёман не вабіць, ні хата, ні сад,
Толькі вёсны буслоў зноў да сёлаў вяртаюць,
А сыны не вяртаюцца ў хату назад.
У хаце новай цяпер Мікалай і Барбара
Жывуць згодна і мірна ля Нёмна-ракі.
Прамінула жыццё, надышла ужо старасць,
А яны надалей быццам два галубкі.
Беларуская, родная кроў ў іхніх жылах,
Каб была памяркоўнай, дастойнай сям'я.
Калі любяць у нас, дык да самай магілы,
Пакуль смерць не разлучыць, не возьме зямля.
Коля з Барай даўно дзяцей вывелі ў людзі,
Далі кожнаму ў рукі асвету як след.
Надалей працавіты і цяжкі іх будзень,
Цяпер унукаў гадуюць, выводзяць у свет.
Няхай вучаць, гадуюць, працуюць пакрысе,
Ні хваробы, ні старасць каб іх не змаглі,
Каб такія, як Бара, у нас не звяліся,
Каб такія, як Коля, у нас вечна жылі!
Паклон нізкі табе, родны край дарагі,
Сівы лес і шырокае поле,
І табе, мілы Нёман, шырокі, даўгі,
Паклон нізкі вам, Бара і Коля.
Пражылі Вы разам пяцьдзесят доўгіх год,
Нёман чуў вашы песні і жалі,
Бачыў радасць жыцця і пакуты нягод,
Калі вас на гады разлучалі.
Бачыў Колі любоў, шчырасць Барыных слёз,
Як раслі, гадаваліся дзеці.
Вашы чыстыя сэрцы ён бачыў наскрозь,
Мо таму захаваў вас на свеце.
Дык жывіце яшчэ ў сваім родным сяле
І не знайце ні гора, ні мукаў
Столькі доўгіх гадоў, колькі Бог вам пашле,
Ды гадуйце, вучыце унукаў.
Каб не ведалі больш ні вайны, ні бяды,
Святам чарка, а праца у будзень,
Каб натураю ўнукі былі, як дзяды,
Гэта знача — дастойныя людзі!
Мілай Бары падзяка за працу яе,
Над дзяцьмі недаспаныя ночкі.
Хай зязюлька ў бары яшчэ шмат накуе
Вам абоім харошых дзянёчкаў.
Галавы не схіляй яшчэ, Коля, наніз,
Яшчэ чарка Твая недапіта,
Ды забудзься, браток, як ты некалі грыз
Ў горы конскае тое капыта.
Хай не сніцца вайна, лагеры па начах,
Смерць сяброў, цяжкі бой чалавечы,
Не прыходзіць той Ёрдан ні ў думках, ні ў сне,
Што лупіў цябе шомпалам ў плечы...
Пакуль мір і спакой, пакуль хлеб на стале,
Стаяць ў Бары каўбасы у місках.
Дзякуй Богу, што ходзім яшчэ па зямлі
І што ўсюды людзьмі засталіся.
Паклон нізкі табе, родны край дарагі,
Сівы лес і шырокае поле,
І табе, мілы Нёман, шырокі, даўгі,
Паклон нізкі Вам, Бара і Коля!

*Паэма друкуецца ўпершыню.*

1978 год.

Ларыса ГЕНІЮШ

Заканчэнне.
Пачатак у № 14.

УСПАМІНАЙМА ПРА ІХ!

## ЯНКА МАЎР

10 мая яму споўнілася б Сто пятнаццаць гадоў. Называю гэту лічбу з пачцівай прапісной літары. І ў той жа час думаю, што ўсім, хто блізка і добра ведаў Маўра, зусім не было б нечакана і дзіўна, калі б ён раптам з'явіўся на такую ўрачыстую гаворку пра яго — з'явіўся сам! Ды яшчэ не проста так узвышана-святочна, а як які-небудзь свавольнік хлапчук праімчаў вярхом на "бярозавым кані"...

Да самай глыбокай старасці — а ён пражыў восемдзесят восем гадоў — усімі сваімі ўчынкамі Маўр нагадваў хлапчука-свавольніка. Ва ўсім і заўсёды нечаканы выдумшчык і фантазёр, ён і псеўданім сабе выдумаў нетутэйшы (настаўнік геаграфіі Іван Міхайлавіч Фёдараў) — Маўр. Гэта імя мела дзіўную прыцягальную сілу і так нязвычна зманьвала сваім нетутэйшым зместам: Маўр... Ды амаль і ўсе першыя кнігі Маўра былі пра далёкія-далёкія краіны: Новая Гвінея, Інданезія, Вогненная Зямля, востраў Цэйлон, Кітай, Італія. Адтуль жа з'явіліся і тыя дзіўныя героі, якія адразу ж і на ўсё жыццё паланілі ўражлівыя дзіцячыя душы: Нонг, Салул, Пандо, Селім... А ўспомніце, якое задавальненне было паўтарыць — хто хутчэй! — неабдымнае імя туземнага імператара: "Сусухунана Паку, Бувона, Сенапапціс, Інгнагалога, Нгабур — Рахман, Сайдын-Панатагамам"!..

Янка Маўр пакінуў сваім чытачам-дзецям цэлую бібліятэку ўласных кніг!..

"У краіне райскай птушкі", "Сын вады", "Амок", "Слёзы Тубі", "Палескія рабінзоны", "Чалавек ідзе", "Шлях з цемры"...

У кнігах Янкі Маўра юны чытач адкрываў не толькі новыя астравы, архіпелагі, краіны... У іх ён адразу ж адшукваў і знаходзіў сабе сяброў. І сам станавіўся адданым сябрам.

Рамантык. Гуманіст. Гэта з яго палымянай ініцыятывы стварылася кніга "Ніколі не забудзем", напісаная самімі беларускімі дзецьмі, што выцерпелі ўсе жахі і пакуты фашысцкіх канцлагераў і цудам засталіся жыць...

Не дай Божа, каб такі лёс сустрэў новыя пакаленні нашых дзяцей.

Янка Маўр як не кожны з дзіцячых пісьменнікаў умеў радавацца дзіцячаму шчасцю.

...Хлапчуку маці купіла новую шапку. І вось ён ідзе, перапоўнены сваёй радасцю, і не ведае, каму расказаць пра яе ў такі сонечны — вакол шчэбет птушак, над галавой такі блакіт! — дзень. І вось яны параўняліся, два шчаслівыя чалавекі...

— Якая ў цябе, брат, цудоўная шапка! А казырок як блішчыць! — здагадаўся, не стрымаў свайго захаплення старэйшы.

— Гэта мама мне купіла! — яшчэ больш заззяў хлапчук.

...Я чула гэта апавяданне з вуснаў самога Янкі Маўра некалі ў нашых Каралішчавічах, яшчэ калі яно не было надрукаванае... І трэба было бачыць, якім шчаслівым, як дзіця, ён адчуваў сябе сам, расказваючы пра тую выпадковую шапку!

Потым, у кніжцы ўжо, ён назваў сваё апавяданне таксама "Шчасцем"...

Алена ВАСІЛЕВІЧ.

*ЦІКАВЫЯ ВЫДАННІ*

# «ГЕРАЛЬДЫКА БЕЛАРУСКІХ МЕСТАЎ»

Паміж чалавечым жыццём і жыццём горада існуе некаторае падабенства. Як і людзі, гарады нараджаюцца, растуць, дасягаюць свайго росквіту, потым старэюць і ўвогуле знікаюць. Ёсць сярод іх доўгажыхары, узрост якіх налічвае шмат стагоддзяў. Яны і зараз крочаць у будучыню. Лёс другіх прыпынены поўнасцю бурлівымі хвалямі яе вялікасці Гісторыі. Трэція вытрымалі ўціск гэтых хваляў, але рост іх затрымаўся, яны згубілі сваё колішняе значэнне, на змену ім нарадзіліся новыя цэнтры, пакінуўшы старым другарадную ролю. Але сведчаннем іх былога гонару і славы засталіся старажытныя гербы, якія нагадваюць сучаснікам і нашчадкам пра багатую мінуўшчыну.

Дарэчы, гарадскія гербы прыцягваюць усё большую ўвагу шырокіх колаў аматараў старажытнасці, краязнаўцаў, усіх, хто любіць сваю Бацькаўшчыну і яе гісторыю. Выяву гарадскога герба можна сустрэць сёння, уязджаючы ў той або іншы горад, на старых будынках. Да гарадской геральдыкі, айчыннай гісторыі павялічваецца цікавасць. Гэта бясспрэчна. І таму як нельга дарэчы і да часу выдавецтва "Полымя" выпусціла ў свет кнігу "Геральдыка беларускіх местаў". На яе старонках змешчаны гербы, якія мелі гарады нашай Беларусі на працягу ад некалькіх дзесяцігоддзяў да некалькіх стагоддзяў.

Выданне складаецца з дзвюх частак. У першай падаецца агульная карціна ўзнікнення мескай геральдыкі і асноўныя вехі гэтага працэсу. У другой прыведзена інфармацыя аб тых гарадах, якія мелі гербы альбо для якіх яны былі спраектаваны. У дадатку размешчаны выявы і іншыя матэрыялы, якія тычацца нашай гербавай спадчыны.

Шмат цікавага чытачы ўведаюць з раздзелаў кнігі "Сімволіка гербаў", "Шляхі развіцця гарадской геральдыкі", "Сімвалы незалежнасці".

Каб чытачы маглі лягчэй арыентавацца, гербы, атрыманыя ў "майдэборскае верам'е", падаюцца на тарках (старажытная назва асобага роду шчытоў, якія ўжываліся ў час рыцарскіх турніраў. — **І. П.**) рэнесансна-барочнай формы. Для больш позняга перыяду ўжыта характэрная для таго часу "руская" (або "французская", як яна называецца ў Расійскай геральдыцы) форма шчыта.

У кнігу таксама ўключаны звесткі аб местах, якія аб'ядноўваліся агульнай геральдычнай традыцыяй і ўваходзілі ў этнічныя і гістарычныя межы Беларусі. Шэраг іх знаходзіцца сёння ў суседніх дзяржавах.

Трэба аддаць належнае аўтару Анатолю Цітову: выданне чытаецца з неаслабнай цікавасцю. Тэкст удала дапаўняюць каляровыя ілюстрацыі. Кніга мае сучаснае паліграфічнае афармленне, добры дызайн. Афармленне зрабіў мастак А. Бажэнаў.

**Іосіф ПАЖОГА.**



**Вітольд Ермалёнак выкладае гісторыю ў Мёрскай сярэдняй школе № 3. І аднначасова з захапленнем займаецца краязнаўствам, збіраючы па крупінках гісторыю Мёрскага раёна. У гэтым яму дапамагаюць юныя гісторыкі, яго вучні, члены клуба "Арганаўты мінулага". Сіламі членаў клуба і іх нястомнага настаўніка ў школе створаны свой краязнаўчы музей, дзе сабраны самыя розныя экспанаты ад рэліквій дагістарычнага перыяду, да бытавога рыштунку, нумізматыкі пачатку нашага стагоддзя.**

**Вітольд Антонавіч, знаёмячы наведвальнікаў з экспанатамі, заўсёды расказвае і гісторыю іх з'яўлення ў музеі. Такіх гісторый сотні. І кожны новы экспанат прыадчыняе адзін з фрагментаў гістарычнай мазаікі Мёршчыны.**

**НА ЗДЫМКУ: Вітольд ЕРМАЛЁНАК у школьным музеі.**

**Фота Яўгена КАЗЮЛІ, БелТА.**

# АЛЕСЯ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

звяртаючыся да класа і прысутных студэнтаў і выкладчыкаў: "У вас во всех это есть. Твар — это лицо, все это знают!" Плакала я, калі мяне абвінавацілі, што я сарвала ўрок у студэнткі. А я была ўпэўненая, што ў кожнага ёсць "твар". Вось гэтак і ламаліся лёсы беларусаў, беларускіх дзяцей, а разам з імі і лёс Беларусі. І ўсё ж беларусы — людзі вытрывушчыя, вытрывалыя. Не скарылася перад лёсам і сям'я Лёсікаў, Лявіцкага. Спакваля пачала ладзіць жыццё на новым месцы. Алеся скончыла педагагічнае вучылішча, усё жыццё працавала настаўніцай. Жывучы далёка ад Радзімы, яны часта згадвалі Беларусь, Карпілаўку, Мінск. Успаміналі пра колішняе жыццё. Радзіма Беларусь магнітам цягнула іх да сябе. Скажам, вельмі запомнілася Алесі іхняя пабыўка ў Мінску ў чэрвені 1941 года. Прыезд шмат каму ў Мінску нарабіў шоку. І зразумела чаму: Алеся і Люцыя былі ж Лёсікавы. Адна хіба цётачка Уладзя — Купаліха — сустрэла іх сардэчна. Яна з вялікай цяжкасцю купіла ім білеты ў тэатр. Якраз гэтай парой тут гастраляваў якісь маскоўскі тэатр. Усе хадзілі глядзець вельмі тады вядомую актрысу Тарасаву. Паказвалі "Крамлёўскія куранты". А назаўтра пачалася вайна...

Жыла Алеся з Люцыяй у Самахвалавых. Апошнюю ноч начавалі ў колішніх сваіх суседзяў Чакалінскіх. Янкі Купалы чамусь не напаткалі. У Коласа былі нядоўга — мо з гадзіну. Міцкевічы ж былі ім сваякі. Купала — хросным бацькам.

Мінск пакінулі на трэці дзень вайны... На бетонным мосце іх прыспела бамбёжка. Запомнілася паніка, кроў, слёзы...

Пакідалі Мінск пешкі...

Былі і пасляваенныя пабыўкі на Радзіме. Кожная з іх вартая згадкі, успамінаў. Але згадаем адну. Яна ўжо адбылася пасля смерці маці — Ванды Лявіцкай. Яе запаветнаю мараю было наведаць бацькаву магілу. Але зрабіць гэтага ёй самой не выпала. Тады яна наказала зрабіць гэта сваім дзецям і ўнукам. І вось летам 1980 года Алеся разам з сваёй дачкой Галяй і ўнукамі вырвалася з далёкай Татаркі, з далёкай Стаўрапольшчыны, праз Мінск у Вільню, каб пакланіцца магілцы свайго слыннага дзядулі і прадзеда. Пра гэтае сваё падарожжа, поўнае прыгод і хваляванняў, Алеся распавядае так: "Пра тое, што дзед мой спачывае вечным сном у Вільні на могілках Росаў, нам напісала Людвіка Антонаўна. Яна ліставалася з мамай з сямідзесятых гадоў. Маме вельмі хацелася наведаць магілку. Яна ўжо хварэла і, безумоўна, з'ездзіць не змагла. Я наважылася здзейсніць яе просьбу. Летам 1980 года мы з дачкой Галяй і ўнукамі прыехалі ў Мінск. На другі дзень паехалі раніцай у Вільню. Надвор'е ў Мінску было хмурае, а ў Вільні — дождж. Мы рашылі не глядзець Вільню, а толькі шукаць пагост Росы. Пыталіся ў даведачнай — людзі сказалі, што гэта недалёка ад вакзала. Пайшлі пешшу. Вымаклі да ніткі. Праз усю дарогу пыталіся, як дайсці да могілак. "Ды тут дзве шагі", — казалі ім стрэчныя. А гэтыя "дзве шагі" амаль два кіламетры. Нарэшце дайшлі. У нас дома быў здымачак магілкі Ядвігіна. Яго таксама прыслала маме Людвіка Антонаўна. Мы зайшлі ў далёкі кут, абышлі амаль палову могілак, аднак дзядулевай магілкі не знайшлі. Гадзіне адзінаццатай-дванаццатай раніцы на могілках з'явіліся людзі. Мы пайшлі ў кантору — так мы назвалі. Спыталіся, ці не ведаюць, як знайсці магілку, мо ёсць кнігі, улік. Толкам ніхто не ведаў. Мы засмуціліся, нашы кветкі завялі, растрапаліся і вельмі нагадвалі нас — мокрых, замурзаных і растрапаных. Праз нейкі час, а мы настойліва нікуды не ішлі, падышла жанчына і сказала, што яна апякунша магілкамі пісьменнікаў, і павяла нас. А там і весці не трэба было — усё, як цяпер ведаем, побач. Дзядулева магілка за некалькі крокаў ад брамы-каплічкі. Мы, лічы, знайшлі самі. Яны не маглі чытаць на помніку — там надпіс зроблены лацінскімі літарамі — таму і не ведалі, а мо і не цікавіліся. На магілцы рос вялікі куст белых піёнаў. Яны цвілі, і моцны дождж і вецер прыбіў кветкі да зямлі, прыгнуў, і, здавалася, яны спачувалі нам, што нашы кветкі вартыя жалю. Мы пастаялі. Жанчына распыталася, хто мы, адкуль, хто тут пахаваны, і пакінула нас адных. Развітваючыся, мы шчыра, з усяго сэрца падзякавалі ёй. Галя дала ёй грошай. Ведаю, няшмат, у нас іх заўсёды ў саміх не вельмі было. Дый і жанчына была на падвыпітку. Неўзабаве і мы пайшлі на вакзал. Там сагрэліся і паехалі назад, у Мінск..."



Меркавала Алеся ў Вільні напаткацца і з даўняй Вандзінай сяброўкай — Зоськай Верас. Але і зноў не пашчасціла: не зусім дакладна запісалі тэлефон. Гэтак зняможаныя і расчараваныя і вярнуліся ў Мінск...

Усё ж, што ні кажыце, а моцны голас продкаў. Дзе той Стаўрапольскі край, дзе тая Татарка, а дзе Вільня!... Але нішто не спыніла нашчадкаў Ядвігіна Ш. Двое ці болей сутак дарогі і адно адзінае дзеля таго, каб паглядзець на магілку свайго продка, каб выканаць матулін наказ. Хіба гэта не ёсць найвышэйшая праява і сямейнага, і грамадзянскага абавязку.

Алесі Лёсік семдзесят пяць. Яна дапамагае, як можа, нашым даследчыкам, прынамсі аўтару гэтых нататак, сваімі ўспамінамі ўзнаўляць падзеі і факты з жыцця Лявіцкіх, Лёсікаў і агульны гістарычны малюнак даўно мінулых гадоў. Без яе згадак, без яе ўспамінаў нашмат было б бяднейшае ўяўленне і пра Ядвігіна Ш., і ягоную дачку Ванду, пра Язэпа Лёсіка. Хай жа час і разуменне дазволіць ёй прыгадаць усе іншыя драбнічкі з побыту Карпілаўкі, Лявіцкіх, Лёсікаў, бо больш гэтага зрабіць няма каму.

**Уладзімір СОДАЛЬ.**

## РЭДАКТАР, ВЫДАВЕЦ, ПІСЬМЕННІК

75-годдзе адзначыў заснавальнік беластоцкага тыднёвіка "Ніва" і яго нязменны рэдактар на працягу 33 гадоў Георгій Ваўкавыцкі (выступае таксама пад псеўданімам Юрка Зубрыцкі). Гэта чалавек няпростага лёсу. У гады мінулай вайны быў вязнем фашысцкага канцлагера, ваяваў на фронце, скончыў Літаратурны інстытут імя А. М. Горкага ў Маскве. Дзякуючы ўлюбёнасці Г. Ваўкавыцкага ў беларускасць, "Ніва" паступова ператварылася ў выданне, якое шырока асвятляе жыццё беларусаў у Польшчы.

Адначасова Г. Ваўкавыцкі быў заснавальнікам Літаратурнага аб'яднання "Белавежа", рэдагаваў творы літаратараў, якія ўваходзілі ў гэтую суполку, выдаваў "Беларускія календары", займаўся іншай культурна-асветніцкай дзейнасцю. Напісаў некалькі кніг паэзіі, гумару, эсэ, успамінаў. Сярод іх вылучаецца "Віры", што выйшла ў Беластоку ў 1991 годзе і мае падзагаловак "Нататкі рэдактара". У ёй Г. Ваўкавыцкі расказвае пра шмат якія падзеі культурна-грамадскага жыцця на Беласточчыне, дзеліцца сваімі ўражаннямі падчас працы ў якасці галоўнага рэдактара "Нівы", расказвае пра выданне беларускіх кніг.

## НАШ УКРАІНСКІ СЯБАР

75-годдзе вядомага ўкраінскага пісьменніка Міколы Алейніка — прыемная нагода згадаць яго добрым словам. Многія яго творы, у першую чаргу аповесці пра Лесю Украінку ("Леся" ў дзвюх частках) і "Утрапёная", якія ў перакладзе выходзілі і ў Мінску, прасякнуты матывамі дружбы ўкраінскага і беларускага народаў. М. Алейнік неаднаразова бываў на Беларусі, сябраваў з Міколам Засімам. Ён пераклаў раманы "Атланты і карыятыды" Івана Шамякіна (разам з Рыгорам Кулінічам), "Плач перапёлкі" і "Апраўданне крыві" Івана Чыгрынава, аповесць Хведара Жычкі "Дзе растуць бяссмертнікі", апавяданні Аляксея Кулакоўскага, Івана Навуменкі і іншых пісьменнікаў. У сваю чаргу, творы М. Алейніка па-беларуску перакладалі Вольга Іпатава, Хведар Жычка, Уладзімір Шахавец...

**Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ**

**ЗАСНАВАЛЬНІКІ:**
**Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь; Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі; Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзімы»).**



**НАШ АДРАС: 220005, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 44.**

**Тэлефоны: 213-31-97, 213-32-80, 213-30-15, 233-16-56, 213-37-82.**

**Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.**

**Газета набрана, звярстана і адрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77). Тыраж 1 835 экз. Індэкс 63854. Зак. 607. Падпісана да друку 13.04.1998 г. у 12.00. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.**